# ЛіМ Літаратура і мастацтва

14 ЛЮТАГА 2003 г. № 7/4193 КОШТ 510 РУБ.


АНОНС!

**МЫ — БЕЛАРУСЫ!**

*"Няхай акцыя па стварэнні кнігі "Мы — беларусы!" стане агульнанацыянальнай, агульнанароднай!"*

5

*Алена СІДАРАВА —*

актрыса ў другім калене, лічыць, што жыццё — тэатр, дзе родныя — акцёры.

10-11



Новыя імёны і творы "Літаратурнага квартала".





14-15

ДАНІНА ПАВАГІ

# БЫЦЬ ЖЫВАПІСЦАМ — БОСКІ ДАР

*Сёння споўнілася б 90 гадоў з дня нараджэння народнага мастака Беларусі Віталя Цвіркі. Вось ужо дзесяць гадоў яго няма сярод нас. Але ён пакінуў нам спадчыну, свае думкі, пачуцці, свой вобраз на жывапісных палотнах. І мы, ягоныя сучаснікі, плацім тым жа: мы памятаем, мы гаворым пра яго...*

чытайце на стар. 13



Фота Яўгена КАЗЮЛІ



А. ТВАРДОЎСКІ, Якуб КОЛАС, А. КУЛЯШОЎ, М. ЦІХАНАЎ. Масква, 1949 г.

# БЕЛАРУСКІЯ ВЁРСТЫ ТВАРДОЎСКАГА

*Старонкі біяграфіі славутага рускага паэта ў нататках М. КАДЗЕТА*

4-5 чытайце на стар.

## КОЛА ДЗЁН

***Сёння свята — Дзень святога Валянціна. Нягледзячы на розныя жыццёвыя праблемы, а яны ў кожнага заўсёды былі, ёсць і будуць, людскія твары пасвятлелі і не толькі ад святочнага настрою, але і ад таго, што ўжо не за гарамі вясна...***

### ПАШАНА ТЫДНЯ

У гэтым годзе выдатнаму палітычнаму дзеячу, Герою Савецкага Саюза і Герою Сацыялістычнай працы Пятру Міронавічу Машэраву споўнілася б 85 год. На малой радзіме П. Машэрава — на Віцебшчыне — да юбілею свайго знакамітага земляка даўно ўжо ўсе рыхтуюцца. Ва ўстановах адукацыі з моладдзю сустракаюцца ветэраны вайны, якія добра ведалі П. Машэрава. А Віцебскі гарвыканкам прыняў рашэнне ў адным з новых сваіх раёнаў адной з вуліц надаць імя Машэрава.

### РАСПАРАДЖЭННЕ ТЫДНЯ

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь падпісаў Распараджэнне "Аб правядзенні VII Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі". Гэтая значная мастацкая акцыя, накіраваная на ўмацаванне і развіццё лепшых традыцый айчыннай музыкі і літаратуры, адбудзецца ў чэрвені 2003 года. Распараджэннем зацверджаны і арганізацыйны камітэт фестывалю пад старшынствам намесніка прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Дражына.

### ДАСЛЕДАВАННЕ ТЫДНЯ

Згодна з апошнімі дадзенымі "Цэнтра палітычных даследаванняў" Інстытута сацыяльна-палітычных праблем пры Адміністрацыі Прэзідэнта, прыйсці на выбарчыя ўчасткі 2 сакавіка маюць намер да 70 працэнтаў грамадзян нашай краіны, а яшчэ 20 працэнтаў пакуль не прынялі канчатковага рашэння. Аб непажаданні галасаваць паведамілі толькі 10 працэнтаў апытаных.

### ПАСТАНОВА ТЫДНЯ

Пастанову аб павелічэнні да 50 працэнтаў квоты ўдзелу замежнага капіталу ў беларускай банкаўскай сістэме прыняло праўленне Нацыянальнага банка Беларусі. Аб'ём замежных інвестыцый у беларускую банкаўскую сістэму расце пастаянна. Калі ў 2001 годзе іх паступіла каля 9 мільёнаў долараў, то ў 2002 годзе — 18 мільёнаў, а ў студзені гэтага года — ужо 30,6 мільёна еўра.

### ЗМЯНЕННІ ТЫДНЯ

У сувязі з пераводам у гэтым навучальным годзе сістэмы прафесійна-тэхнічнай адукацыі нашай краіны на дзесяцібальную сістэму ацэнкі ведаў, адбыліся змяненні і ў парадку атрымання выпускнікамі дыпломаў з адзнакай. Цяпер, каб атрымаць "чырвоны" дыплом, неабходна будзе выканаць некалькі патрабаванняў: мець адзнакі 9 і 10 балаў па выніках выпускных кваліфікацыйных экзаменаў, не менш як 75 працэнтаў "дзесяткак" і "дзевяткак" па выніках вучобы і адзнакі не ніжэй за 6 балаў па астатніх прадметах.

### ЗВЕСТКІ ТЫДНЯ

Паводле аператыўных звестак Міністэрства статыстыкі і аналізу на пачатак гэтага года на тэрыторыі нашай краіны жыло 9 млн. 898,5 тыс. чалавек, у тым ліку 7 млн. 36,2 тыс. — у гарадах і 2 млн. 862,3 тыс. — у сельскай мясцовасці. У параўнанні з пачаткам 2002 года насельніцтва краіны скарацілася на 52,4 тысячы. Асноўнай прычынай зноў сталі так званыя "натуральныя страты". На працягу мінулага года ў Беларусі нарадзілася 88,7 тыс., а памерла 146,6 тыс. чалавек. У параўнанні з пачаткам мінулага года ўзрасла колькасць жыхароў Мінска — з 1 млн. 712,6 тыс. да 1 млн. 726,3 тыс. чалавек, але і то гэты прырост адбыўся за кошт прыезджых.

### ПЕРСПЕКТЫВА ТЫДНЯ

У 2002 годзе ў нашай краіне прырост колькасці пенсіянераў у параўнанні з папярэднім годам склаў 24 працэнты. У гэтым годзе ў пенсійную сістэму "ўвальецца" яшчэ на 37 працэнтаў больш чалавек, чым летась. Пры гэтым скароціцца колькасць грамадзян, якія ўступаюць у працоўнае жыццё. Праўда, такія праблемы ў большасці еўрапейскіх дзяржаў.



КОНКУРСЫ

# ПРЭМІІ ФЕДЭРАЦЫІ ПРАФСАЮЗАЎ БЕЛАРУСІ

***Камісія па прэміях Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі разгледзела матэрыялы, якія вылучаны на атрыманне прафсаюзных прэмій 2003 года, і паведамляе, што для ўдзелу ў конкурсу дапушчаны:***

**І. За творы прозы, паэзіі, драматургіі** (дзве прэміі):

**1. Віктар Карамазаў** — за кнігу "З вясною ў адным вагоне";

**2. Фёдар Палачанін — за кнігу "Недаспяваная песня";**

**3. Вячаслаў Стома** — за кнігу "У нерушы дзікай прыроды";

**4. Уладзімір Мазго - за кнігі: "Прыгоды марахода" і "Смехапад";**

**5. Рыгор Сакалоўскі** — за кнігу паэзіі "Счастье земное";

**6. Мікалай Шабовіч** — за зборнік вершаў "Падары мне сваю адзіноту".

**ІІ. За музычныя творы, канцэртна-выканальніцкую дзейнасць** (адна прэмія):

**1. Валерый Карэтнікаў** — за вакальна-інструментальную лірычную паэму на вершы Э.Агняцвет "Флейтыст" для сапрана, флейты, фартэпіяна, скрыпкі, альта і віяланчэлі; і 12 характарыстычных п'ес;

**2. Святлана Суседчык** — за высокае выканальніцкае майстэрства ў канцэртных праграмах ансамбля "Бяседа" і стварэнне сольнай праграмы "Маміна вішня";

**3. Віктар Шыкавец** — за стварэнне вакальна-харавога цыкла "Напеў зямлі маёй" (2000-2002 гг.).

**ІІІ. За работы ў галіне тэатральнага мастацтва** (адна прэмія):

**1. Наталля Башава** (рэжысёр-пастаноўшчык) і Ларыса Рулёва (галоўны мастак) - за пастаноўкі спектакляў: Л.Разумоўскай "Сястра мая Русалачка", С.Кавалёва "Дарога на Віфлеем", П.Васючэнка "Рыцар Сонца" ў Беларускім рэспубліканскім тэатры юнага гледача.

**IV. За работы ў галіне кінамастацтва** (адна прэмія):

**1. Ігар Бышнёў** (аўтар сцэнарыя і рэжысёр) і Павел Зубрыцкі (відэааператар) — за цыкл відэафільмаў "Беларусь — нетронутая прнрода в центре Европы";

**2. Ірына Кадзюкова** (кінарэжысёр) — за стварэнне мультфільмаў:

"Прнтча о Рождестве" і "Сестра і брат" ("Сестрнца Аленушка н братец Иванушка");

**3. Аляксандр Яфрэмаў** (рэжысёр-пастаноўшчык) і Людміла Цімашэнка (дырэктар здымачнай групы) — за мастацкі фільм "Поводырь".

**V. За творы жывапісу, скульптуры, графікі і прыкладного мастацтва**

(адна прэмія):

1. Мікалай Кірэеў (прафесар кафедры жывапісу Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў) — за цыкл жывапісных твораў 2002 года;

**2. Валянціна Сідарава** (дацэнт кафедры графікі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў) - за стварэнне высокамастацкай серыі ілюстрацый у 1999-2002 гг.

**VI. У галіне журналістыкі** (адна прэмія):

**1. Васіль Ткачоў** (пісьменнік) і Генадзь Говар (мастак) — за цыкл нарысаў "Хроніка адной вандроўкі" ў Беларускай лясной газеце (2001-2002 гг.);

**2. Леанід Юнчык** (рэдактар газеты "Рэспубліка") — за публікацыі на тэму,. "Защищая.простого человека" ў газеце "Рэспубліка".

**VII. За дасягненні ў самадзейнай мастацкай творчасці:**

**а) за актыўную работу па развіцці народнай культуры і самадзейнай творчасці працоўных** (адна прэмія):

**1. Генадзь Смольскі** — дырэктар Палаца культуры ВА "Беларускі аўтамабільны завод".(дзве прэміі):

**1. Узорны ансамбль танца "Мішутка"** клуба РУП "Смаргонскі завод аптычнага станкабудавання";

**2. Народны ансамбль народных інструментаў "Быліна"** Гомельскай дзіцячай музычнай школы № 1 імя П.І.Чайкоўскага;

**3. Народны ансамбль песні і танца "Дняпро"** Рэчыцкага гарадскога Дома культуры;

**4. Народны ансамбль "Ялінка"** гарадскога Дома культуры "Колас" г.Ельска Гомельскай вобласці;

**5. Народны самадзейны калектыў "Бліскавіца"** Гродзенскіх электрычных сетак.

Камісія звяртаецца з просьбай да творчых саюзаў, культурна-асветных устаноў, прафсаюзных і грамадскіх арганізацый, калектываў прадпрыемстваў і навучальных устаноў, грамадзян рэспублікі правесці абмеркаванне кандыдатур на атрыманне прэмій Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі 2003 года.

Вашы прапановы, водгукі, заўвагі просім накіраваць да 15 сакавіка б.г. на адрас: 220126 г.Мінск, пр.Машэрава, 21, Савет Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, Камісія па прэміях ФПБ (пакой 405, тэл. 223 95 83).

ВЫСТАВЫ

# ЧАРАЎ ДЗІЎНЫЯ КРЫНІЦЫ

Менавіта такую назву мае выстаўка, якая працуе ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа. Гэта другі этап Рэспубліканскага конкурсу дзіцячага малюнка па матывах твораў вялікага майстра мастацкага слова. Творчасць песняра — цэлы свет, свет дзівосны, багаты і непаўторны, у якім месціцца родная зямля, народ, яго жыццё і гісторыя.

"Чараў дзіўныя крыніцы" — гэта яшчэ і свята таленавітых дзяцей з усяе Беларусі (Віцебскай, Гродзенскай, Брэсцкай, Мінскай і Магілёўскай абласцей); гэта магчымасць абмяняцца ведамі тэхнікі выканання малюнкаў (на выстаўцы прадстаўлена графіка, літаграфія, роспіс па шкле, саломапляценне і кераміка), а таксама дэманстрацыя валодання матэрыялам па творчасці Якуба Коласа.



**Паліна ВАШЧЫЛА**

***ФОТА А. ФЕДАРЭНЧЫКА***

# ЧАМУ ПЧАЛА ЖЫВЕ БЕЗ ДЭМАКРАТЫІ?

I

З густам мэбляваны сярэдніх памераў утульны пакой. Прыцемненае асвятленне. Гучыць расслабляльная музыка. Фужэры з шампанскім. Разасланая пасцель. Ён і яна. Усё спрыяе каханню, ці, дакладней, фізіялагічнай блізкасці. І раптам, калі "працэс збліжэння" ўжо фактычна пачаўся, яна палахліва ўскрыквае:

— А вы дэмакрат?!

Анекдот гэты ўзнік дзесятак гадоў назад, калі быць не дэмакратам азначала быць адрынутым, раздаўленым, знішчаным. Успомніўся гэты анекдот у сувязі з чарговай гадавінай так званага жнівеньскага "путча" 1991 года, парой няшчаднай эксплуатацыі дэмакратычнай тэрміналогіі "народазаступнікамі". Тады вельмі добра запомніліся экзальтаваныя асобіны з хціўым бляскам вачэй, выкрывальнай лексікай і патрабаваннямі расправы над "путчыстамі". Ствараецца парламенцкая камісія па расследаванні па-на памяць тады, у жніўні 1991-га, калі ў адно імгненне абрынуўся грамадска-палітычны лад і на гістарычную сцэну выйшлі новыя людзі і новыя каштоўнасці.

"Я ўжо намякаў аб тым, што ў нас з'явіліся розныя людзішкі. У смутны час хістання або пераходу заўсёды і ўсюды з'яўляюцца розныя людзішкі. Я не пра тых так званых "перадавых" гавару, якія заўсёды спяшаюцца раней усіх (галоўны клопат) і хаця вельмі часта з бязглуздай, але ўсё ж з пэўнай больш ці менш мэтай. Не, я гавару толькі пра сволач. Ва ўсякі пераходны час уздымаецца гэта сволач, якая ёсць у кожным грамадстве, і ўжо не толькі без усялякай мэты, але нават не маючы і прыкметы думкі, а толькі выказваючы сабою з усёй сілы неспакой і нецярпенне...

..А між тым паскуднейшыя людзішкі атрымалі раптам перавагу, сталі гучна крытыкаваць усё свяшчэннае, тады як раней і рот баяліся раскрыць, а пярвейшыя людзі, што да гэ-капіталістычнай. Як толькі ўлада аказалася захопленай, учарашнія многія камуністы пераапрануліся ў капіталістычныя смокінгі, а інструкцыі па захопе ўлады (марксізм-ленінізм) пастараліся выкінуць з ужытку, каб другім спакусна не было.

Драматызм і небяспека "дэмакратыі" на постсавецкай прасторы яшчэ і ў тым, што дагэтуль яна хавае "радавод ідэі" — грошы. Да гэтага часу замоўчваецца роля і функцыя грошай, шырокім масам прапаноўваецца марксіцка-ленінская мешанка сацыяльнай справядлівасці, верхавенства закона і волевыяўлення народа. Гэтыя ідэалы — тое ж самае прыкрыццё сапраўднай мэты, як для крыжаносцаў ідэя вызвалення Гроба Гасподня, якой прыкрываліся празаічныя інстынкты рабаўніцтва.

Такім чынам, "дэмакратыя" мае магчымасць пад паэтычнай шыльдай ажыццяўляць рабаўніцтва і абіранне народа. Вельмі дакладна ахарактарызаваў "дэмакратычнае" верхавенства

водзін пасадавых асоб у перыяд з 19 па 22 жніўня 1991 года. Адзін з "камісараў" заяўляецца да мяне ў кабінет з патрабаваннем надрукаваць спіс людзей з адрасамі і тэлефонамі, да якіх трэба звяртацца з даносамі на "таталітарыстаў". (Я ў той час працаваў галоўным рэдактарам газеты "Знамя юности"). Два дні назад пэўныя таварышы прымушалі мяне друкаваць толькі афіцыйныя "путчысцкія" паведамленні. Зняць з паласы рэпартаж нашых спецыяльных карэспандэнтаў у Маскве я адмовіўся, газету, адзіную ў рэспубліцы, да выпуску забаранілі. Трывожная ноч невядомасці і няпэўнасці. Пасля факт нявыхаду газеты стаў фактам для скрупулёзнай работы следчых органаў. Абвінавацяць у забароне газеты вырашылі ні ў чым невінаватага сакратара Цэнтральнага камітэта камсамола. Толькі недзе праз паўгода мы даведаліся, хто быў аўтар забароны. Ім аказаўся мярзотнік з ЦК партыі. Мярзотнік не таму, што забараніў, а таму што хацеў зрабіць вінаватым ні ў чым невінаватага маладога чалавека, у якога на той момант была цяжарная жонка і адсутнасць уладкаванасці ў жыцці. Ніколі не забуду хвалю адступніцтва і здрады. Ніколі не забуду слёзы бяссілля і ўдзячнасці на вачах камсамольскага сакратара за тое, што не здрадзіў, не здаў, не пачаў шчаміцца па галовах у новае, "дэмакратычнае", жыццё.

Ніколі не забуду і другога камсамольскага сакратара, яго езуіцкую параду:

— Я не прымушаю вас не друкаваць рэпартаж вашых спецкараў з Масквы, але памятайце, што ў вас двое маленькіх дзетак.

...І вось перада мной "камісар" са спісамі адрасоў для даносчыкаў. Газета абавязана друкаваць аб'ектыўную інфармацыю і мае права адмовіць любой уладзе ў тыражаванні гнюснасці і ў падбухторванні да подласці. Спрабую гэта тлумачыць пасланцу "дэмакратыі", а ў адказ зноў чую напамін пра двух маленькіх дзяцей.

*Я ни с этими и ни с теми,*
*Одинаково в стороне,*
*Потому что такое время*
*Когда не с кем быть вместе мне...*

*Ложный свет увлекает в темень.*
*Муза распята на кресте.*
*Я ни с этими и ни с теми,*
*Потому что как эти — те!*

Так сказаў у дзесятую гадавіну кастрычніцкага перавароту паэт Ігар Севяранін. Гэтыя радкі прыйшлі мне

тага так удала трымалі верх, сталі раптам іх слухаць, а самі маўчаць; а іншыя дык ганебнейшым чынам падхіхіквалі", — так 120 год назад характарызаваў гэтых фігурантаў Фёдар Дастаеўскі. Тыя, хто гадамі лічылі сябе неацэненымі, непрызнанымі, з хваравітым самалюбствам і выдатным апетытам рынуліся ў "гаспадары жыцця". Пачалася эпоха набыцця палітычнага капіталу, і проста капіталу, мінаючы прафесійнае і маральнае сіта.

Перш-наперш яны паклапаціліся аб дэпалітызацыі і дэідэалагізацыі грамадства. Нейкім дзіўным чынам усё лепшае, што мелася ў сацыялістычнай грамадска-палітычнай фармацыі, там і засталося. У "дэмакратычнае" будучае было ўзята толькі самае горшае. У тым ліку было выкінута з жыцця і марксіцка-ленінскае вучэнне, ці не таму, што там вельмі шмат і дакладна гаварылася пра сутнасць дэмакратыі. Праўда, класікі марксізму-ленінізму адрозніваді два віды дэмакратыі: капіталістычна-буржуазную і сацыялістычна-пралетарскую. Пра першую яны гаварылі: прыгнечаным раз у некалькі год дазваляюць вырашаць, які менавіта з прадстаўнікоў прыгнятаючага класа будзе ў парламенце прадстаўляць і прыгнятаць іх. "Дэмакратыя — фармальны парламентарызм, а на справе — беспрапынны жорсткі здзек, бяздушны, невыносны прыгнёт буржуазіі над працоўным народам".

"Буржуазія, сіла якой вызначаецца выключна грашамі, не можа набыць палітычную ўладу інакш, чым зрабіўшы грошы адзіным крытэрыем заканадаўчай дзеяздольнасці чалавека. Усе феадальныя прывілеі, усе палітычныя манаполіі мінулых стагоддзяў павінны раствярыцца ў адной вялікай прывілеі і манаполіі грошай".

Вось менавіта тут, у гэтай фразе мы і бачым радаслоўную ідэй дэмакратыі. Гаворым дэмакратыя, чытаем — улада, гаворым улада, чытаем — грошы, гаворым сацыяльная абарона, зноў жа чытаем — грошы. Грошы, грошы, грошы, грошы... Толькі іх прагнула раптам усплыўшая сволач. І сволач гэта ўсплыла не ў ліцейных ці механазборачных цэхах, не на тэкстыльных і домабудаўнічых камбінатах. Яна ўсплыла ў высокіх кабінетах партыйна-савецкай і гаспадарчай наменклатуры. Здрада рыхтавалася загадзя і непрыкметна. Як механізм перавароту была выкарыстана дэмакратыя. Адным словам, усё па ленінскай інструкцыі.

Такім чынам, пры дапамозе гэтай інструкцыі камуністычная буржуазія была звергнута буржуазіяй



закона наш зямляк Іван Саланевіч: "І пісаныя законы і канстытуцыі людзі захоўваюць толькі да таго часу, пакуль у іх не хапае сілы, каб іх не захоўваць".

Другая небяспека постсавецкай "дэмакратыі" — небяспека бюракратыі. "Рэальнасць гэтай небяспекі заключаецца ў тым, што сённяшні правячы слой краіны ёсць па сутнасці суцэльная бюракратыя. Гэты слой на ўсіх галасаваннях — і агульнапалітычных і мясцовых — будзе галасаваць за тую партыю, якая гарантуе магчымасць большай колькасці "месцаў", "службаў", "пастоў", улады. Ён будзе галасаваць супраць усялякай партыі, якая абапіраецца на прыватную і мясцовую ініцыятыву. І ён будзе слоем, які праявіць максімальную палітычную актыўнасць, бо ўсялякая функцыянальная ўласнасць — гэта кавалак хлеба для гэтага слоя і любая спроба сцвердзіць права прыватнай ініцыятывы будзе спробай адабраць гэты кавалак хлеба".

Трэцяя загана "дэмакратыі" — неабходнасць пастаяннай барацьбы за ўладу. Адзін французскі міністр прызнаваўся, што 95% яго сілы затрачваецца на барацьбу за ўладу і толькі пяць працэнтаў на работу ўлады.

II

"Дэмакратычнай" арганізацыі развіцця і існавання не ведае жывая прырода. Уявіце сабе ваўчыную зграю, дзе б важака выбіралі галасаваннем? На што ўжо дасканала арганізавана жыццё пчалінага грамадства, а і там ніякай дэмакратыяй не пахне. Можа, з-за адсутнасці дэмакратыі ў пчалінай сям'і і прысутнічае парадак. Можа, таму там кожны і займаецца толькі тым, на што ён здатны і што менавіта зараз патрэбна пчалінаму грамадству? Добра вядомы ўзроставы падзел працы ў пчол. Але яшчэ існуе і касты. У сям'і той або іншы від работы выконвае пэўная група (каста) пчол-работніц, якая ведае ўсе далікатнасці сваёй справы. Адны пчолы з раніцы да вечара лётаюць за нектарам і робяць гэта з дня ў дзень, другія будуюць соты, трэція ахоўваюць вулей і г.д.

Лічыцца, што лятак ахоўваюць толькі маладыя пчолы. Для аховы патрабуецца 20—30 пчол адначасова. Калі штодзённа нараджаецца 1,5—3 тысячы асобін і ўсе пчолы па чарзе ахоўваюць лятак, то кожнай пчале дасталося б усяго 20—30 хвілін дзяжурства за ўсё яе жыццё. У сапраўднасці ж гняздо ахоўвае больш або менш пастаянная група пчол, у якой знаходзяцца асобіны ўсіх узростаў.

Прынята лічыць, што разведчыцы — гэта старыя, вопытныя зборшчыцы корму. Аднак даследаванні паказваюць, што разведчыцкія абавязкі выконваюць пчолы самага рознага ўзросту — ад 10 да 40 сутак. Разведчыца ад нараджэння да смерці разведчыца.

У пчол ва ўзросце 12—18 дзён воскавыдзяляльныя залозы маюць найбольшую прадукцыйнасць. Лічыцца, што менавіта ў гэтым узросце пчолы бываюць будаўнікамі. Аднак назіранні паказалі, што сярод пчол-будаўнікоў 23—43% не маюць васкавых пласцін, г.зн. яны старэй указанага ўзросту або значна маладзей. На будаўніцтве была выяўлена нават двухдзённая пчала.

Існуюць, як высветлілася, асобіны, якія прыступаюць да пэўнага віду работ нашмат раней другіх пчол. Акрамя таго, яны моцна затрымліваюцца на адной з фаз развіцця і, такім чынам, спецыялізуюцца. Яны прыкметна старанней выконваюць гэту работу, і выконваюць з большым спрытам, чым іншыя. Такія пчолы не толькі старанныя і працавітыя, але і лёгка вяртаюцца да аднойчы пройдзенага этапа: вартаўніка або будаўніка.

Правільней было б сказаць не да пройдзенага этапа, а да сваёй асноўнай "прафесіі" толькі таму, што яны з'яўляюцца спецыялістамі менавіта ў гэтай рабоце. Гэта іх асноўнае прызначэнне ў сям'і.

Як бачым, у пчол існуюць два віды падзелу працы: узроставы і кастavы. Дзякуючы гэтаму ўсе рабочыя працэсы сям'і працякаюць строга па законе найменшай затраты сілы, часу і матэрыялу.

Жыццё пчалінай сям'і настолькі рацыянальна пабудавана, што арганізацыю яе нельга растлумачыць толькі інстынктам і фeрамоннай канцэпцыяй (фeрамон — спецыяльныя рэчывы, якія выдзяляе пчаліная матка і якія лічацца адным з рэгулятараў жыцця пчалінай сям'і).

Даследаванні пчаліных тайн прывялі да новай канцэпцыі, якая сцвярджае, што ў пчалінай сям'і існуе лідэр са сваёй камандай.

Часта пчаляры пішуць: "Пчолы не прынялі (або прынялі) падсаджаных матак, пчолы прыйшлі ў раўвы стан і г.д.". Калі б такія рашэнні прымалі пчолы, то яны ніколі б не прыйшлі да адзінай думкі. Такія пытанні знаходзяцца толькі ў кампетэнцыі лідэра.

У жыцці пчалінай сям'і ўзнікае неабходнасць змены маткі, якая перастае задавальняць патрабаванні лідэра. Згодна фeрамоннай канцэпцыі немагчыма было б вырашыць гэтае пытанне: хто пасмее знішчыць "каралеву", замяніць яе новай маткай?

Па камандзе лідэра вырашаецца і лёс шматлікіх трутняў.

Дзякуючы адсутнасці ўсякай дэмакратыі і прыхаваных мэтаў, пчаліная сям'я мае тое, што дазваляе ёй ісці па шляху максімальнай эканоміі сіл і ажыццяўляць выжыванне роду. А менавіта, пчаліная сям'я мае: свабоду працы і творчасці і ўстойлівасць свабоды працы і творчасці.

Чалавечае грамадства пакуль што мае "дэмакратыю" і інтэнсіўны працэс фізіялагічнай, інтэлектуальнай і маральнай дэградацыі.

**Павел ВЕРАБ'ЁЎ**

## ЛІМ-ЧАСАПІС

# ПРА СЯБЕ, КРАІНУ, ЧАС

1 лютага ў мінскім Палацы моладзі адбылася вечарына з нагоды выхаду ў свет альбома твораў мастака Алеся Марачкіна. Адкрылася вечарына дэманстрацыяй дакументальнага фільма пра мастака, створанага рэжысёрам Уладзімірам Арловым. Далей сам мастак распавядаў пра час і пра сябе, пра людзей, з якімі звёў лёс, пра мясціны, якія давялося пабачыць. Яго аповед дапаўнялі выступы сяброў, прадстаўнікоў розных творчых асяродкаў. Алесь Марачкін казаў, што ідэю альбома-аўтабіяграфіі падарыў яму калісь сербскі мастак Міліч з Мачвы. Той казаў: "Я сам хачу пра сваё жыццё напісаць". Альбом зроблены ў форме дзённіка, дзе фотаздымкі і ўспаміны дапоўнены вершамі, малюнкамі, жывапіснымі творамі — ці наадварот: мастацкія творы ды вершы дапоўнены фотаздымкамі і ўспамінамі. Кніга ўспрымаецца як цэльны арганізм, з якога нельга штосьці вылучыць як галоўнае. Усё галоўнае. Як у жыцці: кожнае імгненне каштоўнае.

Знаўцы творчасці Алеся Марачкіна могуць пашкадаваць, што шэраг твораў, якія яны зважаюць за класічныя, у кнігу не трапілі. Але ў дадзеным выпадку мастак і складальнік — адна асоба. Альбом тым і цікавы, што гэта суб'ектыўны погляд творцы на сваю ж творчасць. У альбоме, здаецца, упершыню надрукаваны роспісы, якія мастак рабіў у Злучаных Штатах Амерыкі па замове Беларускай аўтакефальнай царквы. Раздзел у кнізе прысвечаны і творчасці сына Алеся Антонавіча Ігара, таксама мастака, які скарыстоўвае досвед бацькі, але ідзе ўласным шляхам.

Прысутныя на вечарыне маглі ўпэўніцца, што альбом ужо стаў падзеяй культурніцкага жыцця. Такі альбом можна паказваць замежніку, які цікавіцца нашай краінай. Ён атрымае дакладнае ўяўленне, зведае праўдзівы вобраз Беларусі — так гавораць тыя, хто гартаў альбом.

П. В.

# ...І КАМПОТ З ДЗІЧАК

Гомельская паэтэса Ніна Шклярава аўтар трох зборнікаў вершаў — "Мая вёска", "Міг і вечнасць" і "Дзічка". Нядаўна яна запрасіла на свой дзень нараджэння ў Славянскую бібліятэку сяброў — пісьменнікаў, мастакоў, спевакоў, музыкаў, сваякоў. Сама чытала вершы. Слухала паэтычныя радкі іншых. Старшыня абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў Васіль Ткачоў, паэты Таіса Мельчанка, Фелікс Мысліцкі, Тамара Кручэнка, Ганна Атрошчанка, Эма Усціновіч, мастачка Алена Вагіна, выкладчыца каледжа імя Н. Сакалоўскага Святлана Смяян, землякі Ніны Пракопаўны (а нарадзілася яна ў Пракопаўцы Гомельскага раёна, дзе некалі, як вядома, настаўнічаў Іван Шамякін) і многія іншыя выступоўцы жадалі паэтэсе здароўя і новых творчых поспехаў.

Старшыня абласнога Савета дэпутатаў Валеры Сяліцкі свае пажаданні зарыфмаваў, што мала здзівіла: чалавек ён таленавіты, даўні сябра творчых людзей. Але ж па яго ініцыятыве быў прыгатаваны кампот з...дзічак, які маглі пакаштаваць усе жадаючыя. Чаму з дзічак? Вы, канечне, здагадаліся...

В. Б.

# МАСТАКІ БРЭСТЧЫНЫ

Пад такой назвай выйшаў альбом-каталог, які адразу набыў вялікую папулярнасць у грамадскасці. У ім змешчаны біяграфічныя даныя і творчыя работы мастакоў берасцейскага краю ад Століна і Пінска да Баранавіч і Брэста. У альбоме змешчаны персаналіі 72 мастакоў Саюза Беларусі і 29 таленавітай моладзі. Побач з такімі мэтрамі, як Леў Алімаў, і лаўрэат 17 міжнародных конкурсных выстаў Мікалай Кузьміч, які зрабіў Крыж Еўфрасінні Полацкай, і персаналія Аляксея Паўлючыка, дабіўся вялікіх поспехаў у станкавай манументальнай скульптуры.

Альбом-каталог "Мастакі Брэстчыны" — сведчанне таго, што эканамічнае развіццё берасцейскага краю ідзе разам з духоўнай культурай.

Анатоль ХАРЛАМАЎ

## ЗГАДКІ

# БЕЛАРУСКІЯ ВЁРСТЫ ТВАРДОЎСКАГА

*Шмат гадоў ваенны журналіст Міхась КАДЗЕТ прысвяціў пошукам матэрыялаў аб сувязях вялікага рускага паэта Аляксандра Твардоўскага з нашай рэспублікай. Твардоўскі тут бываў шмат разоў як пісьменнік, як сябра некаторых нашых творцаў. Тут яму двойчы, як ваеннаму карэспандэнту выпала служыць. Першы раз — у 1939 годзе, у час вызвалення Чырвонай арміяй Заходняй Беларусі. Другі — напрыканцы Вялікай Айчыннай.*

*Міхась Кадзет прайшоў многімі беларускімі дарогамі Твардоўскага. Сабраў унікальны матэрыял. Сёння ён прапануе чытачам "ЛіМа" два фрагменты з падрыхтаванай ім кнігі "Беларускія вёрсты Твардоўскага".*



## АДКРЫЎ ПАЭТА-САМАРОДКА

У пятай кнізе шасцітомнага збору твораў А. Твардоўскага змешчаны яго пераклады на рускую мову вершаў Тараса Шаўчэнкі, Янкі Купалы, Івана Франко, Аркадзя Куляшова, а таксама Міколы Засіма і Міколы Сурначова. (Я знарок імёны двух апошніх паэтаў аддзяліў словам "таксама".) Цікава, чаму Твардоўскі побач з класікамі перакладаў і менш вядомых? З версіяй пра Сурначова ўстрымаюся, іншая тэма, а з Засімам няма ніякой загадкі.

...Аднойчы "журналіст" Арон Эрліх (размова ідзе пра восень 1939 года. — **М. К.**) прыехаў з Пружан у Кобрын да Твардоўскага з маладым мужчынам, якога прадставіў яму так:

— Ваш сабрат па пяры — сялянскі паэт Мікалай Арцёмавіч Засім з вёскі Шэні, што пад Пружанамі. Вядомая асоба ў тутэйшых мясцінах!

Яны, паэты, сышліся. Амаль равеснікі: Засіму споўніўся 31 год, Твардоўскі ўступаў у трыццацігоддзе.

Трэба сказаць, што ў Твардоўскага да беларусаў было сваё асаблівае стаўленне. Каранямі ён, як вядома, наш. На Беларускім Палессі нарадзіўся яго дзед Гардзей Васільевіч. Адсюль яго забралі ў войска ў Расію. Праслужыў амаль дваццаць гадоў, далёка ад Радзімы. Яго сябра Ілля Тарасаў, саслужывец, калі скончыўся тэрмін, запрасіў да сябе — у смаленскую вёску. Там адстаўны унтэр-афіцэр Гардзей Твардоўскі пусціў карані: ажаніўся на дачцэ Тарасава, абзавёўся вялізнай сям'ёй. Сын жа Гардзея Васільевіча Трыфан ажаніўся на беларусцы Марыі Мітрафанаўне Плескачэўскай.

Не дзіўна, што, так бы мовіць, беларускі дух вітаў у хаце Твардоўскіх на хутары ў Загор'і. Там заўсёды гучалі беларускія народныя песні. "Нідзе, як у Смаленскай (пазней Заходняй вобласці), не змешвалася столькі песень і не стваралася столькі рознаспеваў з беларускіх, украінскіх і расійскіх песень, — успамінала Марыя Іларыёнаўна Твардоўская. — І можна толькі здзіўляцца таму, як шмат песень памяталі сялянкі Смаленшчыны, што ўзялі гэты рэпертуар ад мужоў, свёкраў, суседзяў. Твардоўскі ведаў шмат і народных песень, і беларускіх таксама".

Якуб Колас, які быў у захапленні ад таго, як Твардоўскі ў сяброўскай кампаніі чытаў свае вершы, казаў, што ў плыні яго паэзіі чуе беларускія крыніцы...

Але вернемся да сустрэчы Твардоўскага і Міколы Засіма. Твардоўскі падрабязна распытваў Засіма пра яго жыццё. Даведаўся, што ў семнаццаць гадоў Мікола трапіў у Пружанскую турму — за актыўны ўдзел у падпольнай камсамольскай арганізацыі вёскі Шэні, а пасля дэфензіва ўстанавіла за ім пастаянны нагляд. За палітагітацыю, удзел у нацыянальна-вызваленчым руху, распаўсюджванне "бальшавіцкай халеры" ў вершах і частушках Засіма некалькі разоў арыштоўвалі, а перад рэвалюцыйнымі святамі адпраўлялі за краты проста так, для прафілактыкі. Мікола Засім з сарказмам казаў пра жыццё сваіх землякоў. Гаварыў і пра тое, што паны называлі яго вершы хлопскімі, усяляк прыніжалі паэта і яго мову. А потым прачытаў Твардоўскаму свае творы "Парагвай", "Секвестар", "Ні каровак, ні мандату...", "Знатакі", "Дваццаць адно", "Песня кахання", "Малітва старой бабулькі пры панскай Польшчы" і інш.

Мабыць, Засімаўскі Цімох з "Парагвая" нагадаў Твардоўскаму яго Мікіту Маргунка з "Краіны Муравіі". Паэтычную роднасць, думаю, выклікалі і некаторыя іншыя вобразы Міколы Засіма. І не дзіўна: музы паэтаў жывіла адна крыніца — любоў да зямлі, да вёскі, да свайго народа.

Твардоўскі ўзяў некалькі твораў Засіма, каб перакласці ў газету 4-й арміі "Часовой Родины", дзе тады працаваў у Кобрыне. Але зрабіць пераклады не паспеў. Адабраў толькі два вершы, вядома, на беларускай мове, для кобрынскай павятовай газеты "Труд". Яе рэдактар Сяргей Чэпік паставіў вершы ў нумар...

А праз шмат гадоў, у 1949 годзе ў чацвёртым нумары часопіса "Новый мир" з'явілася падборка "Стихи Миколы Засима" ў перакладзе Твардоўскага і яго ўступны артыкул. У падборку трапілі "Парагвай" і "Аб сабе", Напісаныя М. Засімам адпаведна ў 1935-м і 1936 гадах і вершы "Сябры", "Сустрэча", "Таму, хто змагаўся", створаныя беларускім паэтам у 1942—1945 гадах. Апошнія Засім перадаў Твардоўскаму ў студзені 1949-га года ў Маскве, куды наш паэт прыязджаў як удзельнік Дэкады беларускага мастацтва і літаратуры. Сустрэліся, як старыя знаёмыя.

Трэба сказаць, што ў той час "Новый мир" па праве быў самым прэстыжным літаратурным часопісам СССР. Твардоўскі бачыў у асобе Міколы Засіма паэта-самародка, вартага, каб яго творы чыталі па ўсёй вялізнай краіне, за мяжой. Між іншым, Аляксандр Трыфанавіч, будучы галоўным рэдактарам гэтага часопіса і "Литературной газеты", адкрыў свету Васіля Уладзіміравіча Быкава. Артыкул жа паэта "Стихи Миколы Засима" пасля "Нового мира" быў надрукаваны ў кнізе Аляксандра Твардоўскага "Аб літаратуры" (1973 год). Вось толькі адна цытата з яе, якую даю на мове арыгінала:

"Микола Засим пользовался широкой популярностью среди крестьян, особенно молодых, как автор острых запоминающихся стихов и частушек против панов и их прихвостней, против системы гнета, испытываемого белорусами, отторгнутыми от единой семьи народов. Это был поэт-пахарь, который не мог публиковать своих стихов и песен в печати по условиям жесточайшей цензуры и по своему положению "неблагонадежного". Он довольствовался славой "неписьменного мужицкого поэта", сочитал свои стихи, идя за плугом, и читал их вечерами на сборищах сельчан, на посиделках и сходках. Он жил жизнью родного народа, его думами и надеждами, его печалями и радостями, и перенимал от него средства наиболее доходчивого словесного построения — острой шутки, лукавого иносказания, поговорки и присказки, лирической нежной запевки".

У трэці раз Твардоўскі і Засім сустрэліся на другім з'ездзе пісьменнікаў Беларусі ў чэрвені 1949 года. Нашы пісьменнікі, удзельнікі з'езда, успамінаюць, што яны па-добраму нават зайздросцілі тым сяброўскім адносінам між Твардоўскім і Засімам.

Так, блаславенне Твардоўскага для Засіма аказалася шчаслівым. Вершы нашага паэта ў перакладзе Твардоўскага на рускую мову з'явіліся ў "Анталогіі беларускай паэзіі" (Масква, 1952 г.), адным з рэдактараў якой быў Аляксандр Трыфанавіч, друкаваліся ў калектыўных зборніках у Маскве і Ленінградзе, у некаторых рэспубліках былога СССР, а таксама за мяжой у перакладах на балгарскую і мангольскую мовы.

## ДЗЕ ГЭТА ВУЛІЦА?

Аляксандр Твардоўскі цудоўна ведаў Беларусь. Ён хадзіў, ездзіў па многіх яе дарогах.

Упершыню ж вялікі рускі паэт пабываў у нашай рэспубліцы ў лютым 1934 года з пісьменніцкай дэлегацыяй Смаленскай (тады Заходняй) вобласці. Тая паездка і стала пачаткам яго супрацоўніцтва з беларускімі калегамі і перакладаў іх вершаў на рускую мову. А праз год у Мінску на беларускай мове выйшаў зборнік твораў "Паэты Заходняй вобласці", укладальнікам якога быў Твардоўскі. У кнізе надрукаваны ўрывак з паэмы Твардоўскага "Шлях Васіля Пятрова" ў перакладзе Сяргея Дарожнага. У сваю чаргу Аляксандр Трыфанавіч пераклаў для смаленскіх выданняў вершы нашых паэтаў...

Пра беларускую восень паэта ўжо сказана...

У чэрвені-ліпені 1944 года ў час буйнейшай стратэгічнай наступальнай аперацыі "Баграціён" падпалкоўнік Твардоўскі — спецыяльны карэспандэнт "Красноармейской правды" — штодзённай газеты 3-га Беларускага фронту (зараз "Во славу Родины"). На рэдакцыйным вілісе, на спадарожных ваенных машынах тады ён шмат ездзіў па дарогах нашай рэспублікі. Чытаем: "Беларусь, вёска Панскае пад Барысавам. У мяне ні стала, ні ложка, пераезд за пераездам, — але на душы добра і свабодна".

Аляксандр Трыфанавіч таксама пабываў тады ў толькі што вызваленым Віцебску, Оршы, Барысаве, Мінску, Валожыне, Смаргоні, Лідзе, Гродне... У Лагойску, напрыклад, ён затрымаўся на суткі, каб узяць матэрыял для знакамітага яго нарыса "Косця" аб беларускіх партызанах і партызанскім шпіталі. З Лагойска Твардоўскі разам з Уладзімірам Арынічам, супрацоўнікам "Красноармейской правды" паехаў у вёску Дальказічы пад Плешчаніцамі, каб наведаць родных і блізкіх таго.

У "Красноармейской правде", "Известиях" і "Комсомольской правде" друкаваліся нарысы і вершы Твардоўскага, прысвечаныя перамогам войскаў 3-га Беларускага фронту ў аперацыі "Баграціён"...

...Прыкладна праз месяц пасля перамогі паэт закончыў сваю славутую кнігу

пра байца Васілія Цёркіна. Адбылося гэта ва ўсходнебеларускім горадзе Тапіачу (сёння — Гвардзейск Калінінградскай вобласці). 30 чэрвеня "Красноармейская правда" надрукавала заключную частку кнігі. А неўзабаве Твардоўскі зноўку трапіў у Беларусь...

На базе 3-га Беларускага фронту сфармавалася Баранавіцкая ваенная акруга. "Красноармейская правда" стала акруговай газетай. Штаб, палітупраўленне і рэдакцыя на нейкі час атабарыліся ў Бабруйску. Вагоны рэдакцыйнага цягніка стаялі на чыгуначнай станцыі Бабруйск. Супрацоўнікі друкарні і выдавецтва жылі ў казармах ваеннага гарадка Кісялевічы, большасць жа афіцэраў рэдакцыі здымалі прыватныя кватэры ў горадзе.

Аляксандр Твардоўскі, пісьменнік Яўгеній Вераб'ёў і мастак Арэст Вярэйскі (стваральнік мастацкага вобраза Цёркіна) жылі на Фарштаце. (Просьба да тых бабруйчан, якія ведаюць гэта, адклікнуцца, напісаць мне на адрас рэдакцыі. Бо нават дачка Твардоўскага Валянціна Аляксандраўна пісала мне, што ў бацькавых архівах не знайшла яго бабруйскі адрас. Пакуль і мне не ўдалося нічога высветліць.)

Думаю, што хутчэй за ўсё Аляксандр Трыфанавіч атрымліваў карэспандэнцыю па адрасе газеты: г. Бабруйск, штаб акругі, "Красноармейская правда". А можа, і па-гэтаму: палявая пошта 55563, які нейкі час захаваўся за рэдакцыяй пасля пераезду з Тапіачу.

Пісьменнік Яўген Вераб'ёў, які працаваў разам з Твардоўскім у "Красноармейской правде" ў 1942—1945 гадах пакінуў успаміны, у якіх ёсць і бабруйскі малюнак:

***"З дэмабілізацыяй пісьменніцкай групы ў аддзеле кадраў Галоўпура не спяшаліся, замены доўга не было. У рэдакцыі паспелі наконт і гэтага скласці жартоўную анкету: "Ваш любімы горад" — "Гэты горад". — "Ваша любімая песня". — Бывай, любімы горад..."*** і г.д.

Твардоўскага дэмабілізавалі ў рэдакцыі першым. Раніцой ён прыйшоў на Фарштат, дзе жылі А. Вярэйскі і я, каб падзяліцца радасцю — заўтра вяртаецца ў Маскву. Ужо калі выйшаў за веснічкі, ён падаў трафейны ліхтарык Вярэйскаму, доўгі, круглы, на трох батарэйках, на імгненне задумаўся, паглядзеў на дом, дзе мы знайшлі прыстанішча, і зымправізаваў:

*Мне не хватает многих нужных*
*Вещей, добытых под огнем.*
*Ну что ж,*
*Ходи в бобруйский нужник*
*С моим дареным фонарем.*

А мне Твардоўскі падараваў тады пачак гарбаты і стос цудоўнай паперы трафейнага паходжання. Ён дастаў падарунак са знаёмага мне куфэрачка. Ад'язджаў ён не абцяжараны ніякай маёмасцю, — малагабарытны чамадан і рэчавы мяшок "сідар", які шмат пабачыў на сваім вяку.

Да дэмабілізацыі Твардоўскі пражыў у Бабруйску каля чатырох месяцаў. Адтуль ён ездзіў у вайсковыя часці ў Асіповічы, Пухавічы, Старыя Дарогі, Урэчча.11 лістапада "Красноармейская правда" надрукавала вялікі верш Твардоўскага "Дарога дадому" — своеасаблівы зварот да воінаў-пераможцаў, якія неўзабаве павінны вярнуцца дамоў. (Дарэчы, гэты твор асабіста я больш нідзе не сустракаў.) 1 студзеня 1946 года тая ж газета друкуе верш паэта "Аб Радзіме", які ён прыслаў у рэдакцыю ў Бабруйск ужо з Масквы.

Некалькі гадоў таму да нас у рэдакцыю "Во славу Родины" прыязджаў з Варонежа Рыгор Піліпавіч Улаеў — таксама саслужывец Твардоўскага па "Красноармейской правде" ў 1942—1945 гадах. Улаеў перадаў рукапіс успамінаў аб паэце — нататкі пра тое, як працаваў Аляксандр Трыфанавіч, як паводзіў сябе ў рэдакцыйным калектыве, якім быў з радавымі байцамі і вышэйшым вайсковым начальствам у паездках на фронце і г.д. Газета надрукавала частку матэрыялу ветэрана. Працытую тоесёе з таго, што не ўвайшло ў публікацыю.

***"У свой апошні перад ад'ездам дзень у Бабруйску Аляксандр Трыфанавіч быў у нейкім нязвыклым настроі. З раніцы ён абышоў таварышаў, што жылі на прыватных кватэрах. У час абеду развітаўся з супрацоўнікамі друкарні, якія харчаваліся ў вагоне-сталоўцы. Развіталіся вельмі чула. Вечарам Твардоўскі развітваўся ў салон-вагоне з рэдакцыйным начальствам, афіцэрамі-карэспандэнтамі, літаратурнымі супрацоўнікамі. Шмат спявалі: "Карэспандэнцкую застольную", "Даўно мы дома не былі", песню франтавых лётчыкаў "Машына ў штопары круціцца", складзеныя ў рэдакцыі "Зямлянку", "Шынель", "Палкоўнік нам падае прыклад". Пакінулі салон-вагон глыбокай ноччу. Начальнік аддзела маёр Зелянцоў Аляксей Аляксеевіч, які суправаджаў Твардоўскага на рэдакцыйным вілісе да Мінска, прыспешваў таварышаў: час ад'язджаць, спознімся на цягнік у Мінску".***

Ёсць і такое сведчанне: над Бабруйскам, Кісялевічамі стаяла поўня. Усе, хто праводзіў паэта выпілі "пасашок" на дарожку, разбілі чаркі аб крыло машыны. Твардоўскі, узяўшыся за дзверцу віліса, сумна прадэкламаваў:

*Светит месяц, ночь ясна,*
*Чарка выпита до дна...*

Двухрадкоўе ў рэдакцыі ведалі ўсе: так пачынаўся апошні раздзел "Ад аўтара" кнігі пра Васілія Цёркіна.

Можна зараз толькі ўявіць той момант: сябры, таварышы праводзілі знакамітага на ўсю краіну паэта, чалавека, з якім прайшлі нялёгкімі ваеннымі дарогамі: разлучаліся лёсы. На год, на два, назаўжды?.. Хто ведае...

Калі ўжо пра Цёркіна, дык нагадаю: першыя радкі раздзела "Ад аўтара" Твардоўскі ўзяў з пушкінскага верша "Пахавальная песня" Іакінфа Маглановіча (цыкл "Песні заходніх славян"). Спачатку Аляксандр Трыфанавіч хацеў увесці ў раздзел цалкам страфу ў песні:

*С Богом в дальнюю дорогу!*
*Путь найдешь ты, слава Богу,*
*Светит месяц; ночь ясна;*
*Чарка выпита до дна.*

Але, як ведаем, з Богам у савецкім друку і літаратуры ладу не было. Асмелюся выказаць сваё асабістае меркаванне, што "Пахавальная песня"... магла нейкім чынам быць звязанай з задумкай паэмы "Васілій Цёркін на тым свеце". Вядома, даказаць гэта, або адвергнуць могуць толькі спецыялісты-літаратуразнаўцы.

●

...Беларускія шляхі-дарогі Твардоўскага... І па сёння няма на іх ніякіх памятных знакаў пра выдатнага рускага савецкага паэта, карані якога, як ведаем, цесна звязаны з Беларуссю. Ды і творчасць, жыццё — таксама. (Кобрын — выключэнне. Там ёсць вуліца, якая носіць яго імя. У гэтым горадзе паэт жыў пэўны час на прыватнай кватэры ў 1939.) Толькі, прызнаюся, я пасаромеўся паслаць у Маскву дачцэ паэта здымак той бруднай вулачкі. Гэта добра, што ў нас шмат вуліц, плошчаў Пушкіна, Лермантава, Чарнышэўскага, Някрасава, Бялінскага, Гогаля, Чэхава, Караленкі, Горкага, Серафімовіча. (Хаця, вельмі і вельмі кепска, што непараўнальна менш вуліц, названых імёнамі нашых і класікаў літаратуры, і проста годных пісьменнікаў...) Але хочацца верыць: будуць паўсюль і вуліцы Твардоўскага, і нашых майстроў...

Што датычыць Аляксандра Трыфанавіча, дык, мабыць, ніхто з рускіх літаратараў не любіў і не разумеў Беларусь, яе народ, так як ён.

**Фота з архіва аўтара**




**Захарава, 19**



# РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

**прымае да разгляду:**

***выдавецкія праекты самай шырокай тэматыкі;***
***выканае ўвесь спектр рэдакцыйна-выдавецкіх паслуг (ад рэдагавання рукапісу да выдання і распаўсюджвання кніжнай прадукцыі);***
***арганізуе рэкламу і прэзентацыю выданняў.***

**Вул. Захарава, 19, тэл.: 284-85-25.**

Выдавецкая ліцэнзія — ЛВ № 570 ад 23 кастрычніка 2002 года, выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

# МЫ — БЕЛАРУСЫ!

Як горда, як пашанотна павінны гучаць два гэтыя словы ў сэрцы кожнага з нас! **Мы — нашчадкі славутага старажытнага славянскага роду, дзеці зямлі, што, нягледзячы на ўсе навалы, войны і катастрофы, якое ўжо стагоддзе корміць-поіць нас, і мы а б а в я з а н ы памятаць пра гэта.** Абавязаны — і перад продкамі, што не далі вынішчыць ні зямлі, ні мовы сваёй, і перад нашчадкамі, што ўзжадаюць і чыстае крынічнае вады, і чыстага, спеўнага слова беларускага, бо і ім, як нам, не жыць без гэтага...

Як пацвярджае шматвяковы вопыт, **ніякія і нічые ўказы і загады не створаць нічога ні ў эканоміцы, ні ў культуры, калі грамадскасць — усе мы! — будзем абыякавымі і бяздзейснымі.** Усё — і ва ўласным дабрабыце, і ў дабрабыце нашай краіны — залежыць ад нас. Ад нашай адданасці сям'і, справе, Айчыне. Ад нашай упэўненасці ў сваёй сіле, у сваёй праваце. Ад нашай перакананасці ў сваім праве гучна, горда заявіць усяму свету: м ы б е л а р у с ы!

Няхай жа акцыя па стварэнні кнігі "Мы — беларусы!" стане агульнанацыянальнай, агульнанародны!

**Узгадайце род свой, азірніцеся на жыццё сваё, на ўсё, што выклікае ў душы пачуццё гонару, — і пішыце.**

Агульнымі нашымі намаганнямі кніга "Мы — беларусы!" пазначыць наша месца ў свеце і ў часе, былым і цяперашнім, стаўшы кропкай адліку для новага стагоддзя, для новага тысячагоддзя.

Пішыце на адрас: 220005, Мінск, вул. Захарава, 19, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"; EMAIL: gazeta_lim@tut.by.




У мінулы чацвер (6 лютага) адбылося чарговае пасяджэнне літсуполкі "Літаратурны квартал". З-за прысутнасці вялікай колькасці новых людзей яго прыйшлося пачынаць з самапрадстаўлення прысутных.

"Паэт, актор, рэжысёр", — так сціпла заўважыў адносна сябе Сяргей Патаранскі.

Далей самапрадстаўленне з падачы таго ж Патаранскага перайшло ў абмеркаванне пытання: асаблівасці аўтарскага і акцёрскага прачытання твора. Але Сяргей так і не змог задаволіць просьбы Віктара Іванова прачытаць які-небудзь твор спачатку як акцёр, а затым — як аўтар.

Потым было чытанне твораў па чарзе. Пачынаў яго той жа Сяргей Патаранскі. Ён прапанаваў на суд прысутных пачатак драматычнай паэмы "Арфей і Эўрыдыка". Праўда, па ходзе чытання аўтар зазначыў, што ягоны твор "хутчэй не трагедыя, а камедыя". Абмеркаванне "драматычнай паэмы" спынілася на пытанні: што ёсць літаратура? Жыццё? Гульня слоў? Але далейшага працягу, нейкага паглыблення ў сутнасць рэчаў пастаўленае пытанне не атрымала.

Творы іншых аўтараў (В. Іванова, С. Мінскевіча, А. Спрынчан, Н. Кучмель, У. Гарачкі, Я. Лайкова, В. Трэнас, І. Клепікава, В. Чаропкі, Н. Капы, В. Барткевіч) чыталіся амаль без абмеркавання — магчыма прысутныя былі стомленыя такім бурным пачаткам.

А тэму наступнага пасяджэння — разгляд творчасці Сяргея Патаранскага — прапанаваў усё той жа Патаранскі Сяргей.

**Усевалад ГАРАЧКА**

**ІМПРЭЗЫ**

# ЗАПРАШАЮЦЬ ГІМНАЗІСТЫ

Мінская гімназія № 23 знаходзіцца не толькі ў цэнтры беларускай сталіцы, але і ў цэнтры культурнага жыцця. Тут рэгулярна праходзяць цікавыя сустрэчы з дзеячамі літаратуры і мастацтва.

Вось і нядаўна па запрашэнні адміністрацыі гімназію наведаў вядучы рэдактар выдавецтва "Мастацкая літаратура", паэт Уладзімір Мазго. Адбылася сустрэча з настаўнікамі і навучэнцамі сярэдніх класаў.

Пра жыццёвы і творчы шлях пісьменніка, яго пошукі і знаходкі расказала выкладчыца беларускай мовы і літаратуры Святлана Фёдараўна Буднік. Гімназісты чыталі на памяць вершы госця, дэманстравалі свае малюнкі да ягоных твораў. Прагучалі таксама песні беларускіх кампазітараў на словы паэта.

У сваю чаргу Уладзімір Мазго пазнаёміў прысутных са свай кнігай "Прыгоды марахода", расказаў аб навінах выдавецкай і эстраднай дзейнасці. Многія ўдзельнікі сустрэчы атрымалі аўтографы пісьменніка.

**Н. К.**

# НА ХВАЛЯХ БЕЛАРУСКАГА РАДЫЁ — ЛІТАРАТУРА

**Як звычайна, прадметам асвятлення радыёжурналістамі літаратурнага працэсу з'яўляецца запрашэнне ў студыю цікавых творцаў, прапаганда навінак літаратуры. Так, нядаўна ў праграме "Брама" з аналізам творчасці маладых на старонках часопіса "Маладосць" выступіў намеснік галоўнага рэдактара выдання паэт Алесь Бадак. Цікавыя госці былі ў праграме Галіны Шаблінскай "Палітра", а Ірына Шаўлякова ў "Сентыментальным паляванні" разглядала такі феномен, як графаманія.**

**Цікавыя сустрэчы чакаюць слухачоў у гэтых аўтарскіх праграмах, а таксама ў праграме Святланы Шалімы "Авансцэна", якія традыцыйна гучаць у аўторак, сераду, чацвер, пятніцу ў 22 гадзіны 30 хвілін.**

**Захаваўся на першым Нацыянальным канале расклад і іншых літаратурных перадач. Гэта "Кароткія гісторыі", якія гучаць пасля паўночы штодзённа, "Літаратурны праспект" — у суботу, у 10.45, "Жывы гук" — у суботу ў 17 гадзін і іншыя. Дарэчы, нядаўна мастацкі савет радыё заслухаў пытанні аб паляпшэнні і ўдасканальванні літаратурных праграм, і радыёслухачы адчуюць пазітыўныя зрухі.**

## КАНАЛ "КУЛЬТУРА"

**"КЛУБ ДАМАСЕДАЎ". Панядзелак-аўторак працягваем чытаць у 11.00 старонкі рамана У. Караткевіча "Хрыстос прызямліўся ў Гародні". У гэты ж час у сераду — праграма М. Прохар "Літаратурны клуб", у чацвер — "Натхненне" В. Макарэвіча.**

**"ЛІТАРАТУРНЫ АЎТОРАК" у "Сімфоніі дня" 18 лютага прапануе ўвазе сваіх слухачоў: у 12.10 — "Дзеяслоў" Л. Рублеўскай, у 13.10 — "Таленты з глыбінкі" М. Прохар, у 14.10 — "Магія творчасці" З. Каваленкі, выпуск да 10-гадовага юбілею Тэатра беларускай драматургіі, у 14.40 — " Сугалоссе" У. Дзюбы пазнаёміць з перакладамі вершаў Рабіндраната Тагора, якія на беларускую мову ажыццявіў Алесь Разанаў; з 15.00 — "Ліставанні" І. Рыбіцкага, на гэты раз у іх — эпісталярная спадчына рускага кампазітара XIX ст. М. Мусаргскага, у 15.30 у "Паэтычным радыётэатры" запрашаем паслухаць радыёдзеянне паводле дзіцячых вершаў М. Маляўкі "Дзе жывуць казкі". І напрыканцы "Літаратурнага аўторка" — праграма Х. Лялько, пачатак у 16.10 (паўтор у суботу, у 10-10).**

**Н. К.**



# ЧАРУЮЧЫ ПОГЛЯД І СЛОВА

гэтай складанай тэмы не надта імкнуліся далучыцца даследчыкі. Яно і не дзіўна, бо як піша сам аўтар — доктар філалагічных навук А. М. Ненадавец: "Кніга прысвечана розным бакам жыцця і паводзін знахароў і варажбітоў. Упершыню на шматлікіх прыкладах з класічнай літаратуры, вуснапаэтычнай творчасці паказана, як уплывалі чараўнікі і варажбіты, знахары і народныя лекары, на чалавека і хваробу". Найбольш мяне ўразілі ў гэтым плане два невялікія раздзелы: "Міфалогія і магія" і "Сіла страху". Я б назвала іх тэарэтычнымі таму, што на гэтых старонках вядомы фалькларыст паказвае глыбінныя сувязі нацыянальнай міфалогіі з магіяй, акрэслівае прычыны ўзнікнення страху. Думкі гэтыя слушныя, аргументаваныя. "Калі наш прашчур расказваў, напрыклад, сыну пра багоў свайго народа ці вучыў яго абрадам, якія ён павінен быў здзяйсняць у гонар радавых продкаў, то і гэтыя багі і духі продкаў у яго вачах былі не проста персанажамі племяннон міфалогіі, а рэальнымі істотамі, прыкладнае месцажыхарства якіх (як недалёкае, тутэйшае, так і далёкае, чыста міфалагічнае, казачнае, "за сінімі марамі, за высокімі гарамі") ён усё ж неяк мог акрэсліць". Здзіўляе ўжо тое, што сама работа выканана выключна на сумежжы міфалогіі і рэлігіі, народнай медыцыны і варажбы, знахарства і чараўніцтва. Вядома ж, такая кніга не пішацца за адзін дзень.

А. Ненадавец, паводле ягоных меркаванняў, падзяляе ўсіх знахароў на спагадлівых і чорных. Выходзіць з таго, што адны з іх прыносілі (і прыносяць!) людзям карысць, палёгку, выручаюць у цяжкія моманты жыцця, а другія, наадварот, — ва ўсім, найперш, бачаць толькі асабістую выгаду, не звяртаючы асаблівай ўвагі на тое, якім шляхам яна дасягнута. Гэты ўмоўны падзел выводзіцца яшчэ з першабытных часоў, адтуль, калі пад уздзеяннем нетлумачальных, а таму персаніфікаваных сіл прыроды, узнікала ў нашых першапродкаў пачуццё страху, калі нараджалася адвечнае супрацьстаянне дабра і зла.

У раздзеле "Спагадлівыя знахары" гаворка вядзецца пра тое, што раней "спагадлівыя знахары браліся вылечваць ад усіх хвароб, якія толькі ўзнікалі (падкідваліся) сярод людзей. Гэта адбывалася з той простай прычыны, што акрамя іх лекаваць не было каму". Яно і сапраўды так, бо медыцына тады, асабліва ў вясковых рэгіёнах, цалкам адсутнічала. Вось і звярталіся да знахароў, якія карысталіся сярод людзей рэпутацыяй добрых, а то і ўсемагутных, бо ж браліся ў некаторых выпадках выратоўваць ад самой... смерці. Нельга забывацца і пра тое, што нашы прашчуры лічылі яе ўсюдыпранікальнай і ўсёпаражальнай, як ты ад яе не хавайся, а ад смерці не ўцячэш і не ўхілішся. Тут вельмі да месца гучаць словы П. Шэйна: "Ад смерці нідзе не захаваешся: хоць пад зямны лёд захавайся, то яна цябе і там знойдзе, і ад яе нічым не абаронішся, ды не адкупішся". А. Ненадавец падкрэслівае іншае — старадаўнія беларусы ніколі не баяліся надыходу смерці, бо лічылі, што да гэтага часу кожны чалавек паспяваў зрабіць усё, прадугледжанае яму Усявышнім на зямлі.

Яшчэ адна акалічнасць, на якую неабходна звярнуць увагу, цытуючы тэксты шматлікіх замоў, а ўсе яны публікуюцца ці не ўпершыню і ўзяты з асабістых запісаў фальклору, зробленых аўтарам, даследчык абавязкова падкрэслівае, што нельга абыходзіць тыя "драбніцы", якія пастаянна суправаджалі выкананне гэтых вылячальных вуснапаэтычных твораў. А яны заключаліся і ў тым, як вымаўлялася замова (уголас ці пра сябе), дзе сядзеў (ляжаў) хворы, а дзе знаходзіўся знахар, што ён мог трымаць у руках і г.д. Але па-добраму здзіўляюць і ўзоры сучаснай вуснапаэтычнай творчасці: напрыклад, "Замова, калі вязуць на базар тавар". Пашаптаць на лыжку з мёдам: "Як пчолы, якія рояцца ды злятаюцца, так бы к тым тарговым людзям купцы сходзіліся". Памыцца трошкі мёдам. Сплёўваць праз левае плячо. Чытаць тры разы".

Апавядаючы пра тое, што знахары суправаджалі чалавека на ўсім працягу жыцця, А. Ненадавец аналізуе вылячальнае ўздзеянне магічных слоў і дзеянняў на канкрэтнага "пацыента" ў розных сітуацыях. Прыкладна гэты ланцужок можна пабудаваць наступным чынам: нараджэнне — юнацтва (сталенне) — стварэнне новай сям'і — старасць. У народзе да гэтага часу засталося нават шмат разнастайных прыёмаў, як завалодаць сэрцам дзяўчыны ці, наадварот, хлопца, калі яны і самі таго не жадаюць. Дастаткова толькі зрабіць усё так, як раяць спрактыкаваныя ("зубы з'еўшыя на такіх зводзінах") знахары. Магло здарыцца і па-іншаму, калі некага трэба было "адсушваць", вяртаць у сваю сям'ю ад упадабанай маладзіцы. Жыццё віравала заўсёды і, вядома ж, сітуацыі здараліся самыя нечаканыя.

Нездарма А. Ненадавец выдзяляе асобны раздзел "Як паводзілі сябе знахары", бо менавіта ў ім спрабуе даць поўны адказ на пытанне, якое хвалявала не адно пакаленне людзей. Кожны знахар прытрымліваўся ўласнай методыкі, якая, як ён сам лічыў найбольш яму дапамагала, бо ніколі нічога ў ёй не было парушана. Як перадавалі старэйшыя, як сказалі выконваць, то іменна так і рабіў, слова ў слова, рух у рух і г.д. "Тлумачыў гэта тым, каб яго ныя замовы не пачулі ліхія людзі, бо "адбяруць" у іх сілу". Стараўся, каб нікога лішняга не было побач. Пакуль ён будзе стаяць, не пачне шаптаць. Прысутнасць другога чалавека адчуваў, як ён ні хаваўся, і нават скажа, дзе хаваўся. Абавязкова пры гэтым скідаў шапку. Перад самым пачаткам тройчы хрысціўся, пасля заканчэння замовы таксама тройчы жагнаўся". Самае цікавае, што аўтару кнігі ўдалося ўпэсці ў свае разважанні і ўрыўкі з літаратурных твораў. Часам, згаданыя прыклады выклікаюць усмешку, бо ў такіх выпадках не адчуваецца павагі да знахара, які дзейнічаў "на мяжы" паміж чорнай і белай магіяй, спрабуючы, выкарыстоўваючы сітуацыю, на гэтым зарабіць (і зарабляў!) як у "Заламцы", узятай А. Ненадаўцам у А. Сержпутоўскага: "Раве нямым голасам вядзьмар, а той яго лупіць. Біў, біў, пакуль здаволіўся, да й пытае:

# ДАРОЗЕ — ДОЎЖЫЦЦА

Нельга не пагадзіцца з тым, што сапраўдная радасць – гэта заўжды адкрыццё новага, нязведанага. У тым ліку сустрэча з чалавекам захопленым, таленавітым, адначасова прафесійна падрыхтаваным. Усімі гэтымі якасцямі валодае кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры беларускай літаратуры Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Францыска Скарыны Вольга Карпаўна Шынкарэнка.

Напрыканцы 2002 года ў мінскім выдавецтве "Беларуская навука" выйшла яе новая кніга, якая яшчэ не паспела пазбавіцца спецыфічных друкарскіх пахаў. Гэта важкая не па вазе ў літаральным сэнсе слова, а па значнасці ўкладу ў падмурак гістарычных даследаванняў навуковая праца, назва якой быццам пацвярджае адзначанае намі вышэй: "Нястомных пошукаў дарога: Праблемы паэтыкі сучаснай беларускай гістарычнай прозы". Сапраўды, няспынныя памкненні аўтаркі, як і само жыццё, знаходзяцца ў пастаянным абнаўленні. З'яўляючыся своеасаблівым працягам праблем, узнятых даследчыцай у папярэдніх працах, апошняя кніга сведчыць аб больш поўнай рэалізацыі творчых магчымасцей самой аўтаркі і ўсіх тых персаналій празаікаў-гісторыкаў, што трапілі ў поле яе зроку. Прычым, пазнаёміўшыся з тэкстам навуковага даследавання, нельга не адзначыць прыкметных эвалюцыйных зрухаў у іх мастацкіх сістэмах, як з боку паэтыкі, ідэйнага пафасу, праблематыкі, так і ў плане вобразна-выяўленчага ўвасаблення аўтарскіх задум.

Ва ўступным раздзеле кнігі Вольга Шынкарэнка знаёміць чытача з тэрмінам гістарычнага жанру як адметнай літаратурнай адзінкі. Доказна, лагічна і паслядоўна, абапіраючыся і спасылаючыся на прызнаныя аўтарытэты, даследчыца даводзіць, што ён існуе і плённа развіваецца ў шматстайным і разнагалосым свеце мастацкай літаратуры па сваіх адметных правілах

Паколькі праблема паэтыкі гістарычнага жанру недастаткова распрацавана айчынным літаратуразнаўствам, вывады і палажэнні работы Вольгі Шынкарэнкі ўспрымаюцца як каштоўнае дапаўненне ў тэорыю пытання.

У раздзеле "Роля міфапаэтычнага і фальклорнага пачаткаў у станаўленні і развіцці беларускай прозы пра мінулае" вызначаюцца асаблівасці паэтыкі твораў на тэму мінуўшчыны В.Ластоўскага, М.Гарэцкага, Б.Мікуліча, Л.Рублеўскай і іншых з улікам дасягненняў шматжанравай рамантычнай гістарычнай прозы Ул.Караткевіча, у якой надзвычай арганічна спалучыліся чалавечае і мастакоўскае "я", канкрэтна-нацыянальнае і абагулена-філасофскае.

Кожны з твораў Ул.Караткевіча, на думку даследчыцы, псіхалагічна дакладна ўзнаўляе побытавыя дэталі тых часоў, а сялянска-шляхецкія паўстанні, розныя трагічныя здарэнні хаця і пакідаюць на целе і сэрцы герояў твораў незагойныя раны, але пад пяром пісьменніка яны нібы перараджаюцца, і за ўсім у мастака праглядваецца дабрыня, спагада, здольнасць да суперажывання.

Трапным, як нам здаецца, атрымалася ў працы і параўнанне Ул.Караткевіча з украінскім пісьменнікам Р.Іванычуком, з яго творам "Манускрыпт з вуліцы Рускай", які і тэматычна, і вобразам галоўнага героя – праўдалюбіва братчыка Юрыя Рагацінца – пераклікаецца з раманам "Хрыстос прызямліўся ў Гародні", а таксама з беластоцкім пісьменнікам Міколам Гайдуком і яго творамі з кнігі "Белавежскія быліцы і небыліцы". Ад такіх супастаўленняў-параўнанняў Ул.Караткевіч робіцца яшчэ больш беларускім, зямным, але не прыземленым. Бо, як і ўсе з узгаданых пісьменнікаў, ён кіруецца высокай мэтаю: быць верным гісторыі, праўдзе жыцця, карэням-вытокам – гэтай вечнай крыніцы народнага вопыту, памяці, нацыянальнай самастойнасці.

Сістэмна-комплексным падыходам да матэрыялу характарызуецца змест раздзела "Мастацкая канцэпцыя чалавека і гісторыі ў паэтыцы Л.Дайнекі і К.Тарасава". Нязмушана і канкрэтызавана, без непатрэбнага штукарства ў манеры пісьма, тут вядзецца гаворка пра спецыфіку ўвасаблення задумы і падачу падзей у гістарычным раман-

— А што, не будзем болей добрых людзей чмуціць?

— Не буду, — просіцца ведзьмар, — толькі пусці жывога" (с. 285).

Некаторыя з пераcцярог-парад знахароў датычацца вынікаў шматвяковага практычнага вопыту продкаў. Асабліва гэта можна падкрэсліць у адносінах да гаспадарчай дзейнасці чалавека, да земляробства, жывёлагадоўлі, рамёстваў. Зразумела, што ў любым з іх імкнуліся да дастатку, таму многае раілася ці ўжывалася па аналогіі: "Трэба сцерагчыся, каб на хату не трапіла такое бервяно, якое пакруцілася вакол сонца. Бо ў новай хаце хутка будзе смерць.

На хату нельга браць дрэва з лапамі, бо ад гэтага дзеці будуць набіваць сабе гузы ці накрычаць на пупе кілу.

Калі дзерава, як яго сякуць, ды завісне на другое, то яно не ідзе на новую хату, бо там заўжды будзе калатня ў сям'і і сям'я будзе брацца загрудкі.

На хлявы добра браць такое дрэва, якое расло каля муравейніка, то жывёла будзе добра пладзіцца".

У раздзеле "Рэчы, якімі карысталіся знахары" А. Ненадавец паспрабавала сакцэнтаваць увагу чытачоў на важнасці ўжывання народнымі знахарамі тых магічных прадметаў, якія, па перакананні варажбітоў, надта дапамагалі пры выкананні абрадаў, замоў-шэптаў ці паўтараемых "тройчы тры" працэсаў лячэння. Трэба дадаць яшчэ і тое, што ў своеасаблівым пераліку, які прапаноўвае нам аўтар (хлеб, абраз, свечка, іголка, нож, ключ-замок, свіны зуб, дубовая кара, кветкі і г.д.) выразна прасочваецца тое, што магічная вера ў гэтыя рэчы ўзнікла недзе ў перыяд ранняга паганства.

Не забываючы пра тое, што любой станоўчай сіле (белай магіі) у грамадстве заўсёды супрацьпастаўлялася нешта адмоўнае, А. Ненадавец адзін з раздзелаў прысвяціў "дзейнасці" чорных варажбітоў, а паводле перакананняў патрыярхальнага беларуса, маглі яны надта многае: "Назаўсёды звадзіць у сям'і мужа з жонкай, ды так, што яны ніводнага дня не здолеюць пражыць без спрэчкі і бойкі; насланць страшэнную, усёпаглынаючую навальніцу, буру *з маланкамі і грымотамі, якая раскідае* гаспадарчыя пабудовы, павыб'е-павынішчыць ураджай на палетках, і ўсё гэта, разам узятае, прывядзе сялян да галоднай смерці; выклікаць небывалую па сваёй працяглсаці і бязлітасці засуху; ператвараць людзей у ваўкалакаў, жаб, сабак, катоў (пераўвасабляць няшчасных людзей, якія нічога благога ўвогуле нікому не зрабілі, у своеасаблівых носьбітаў нячыстай сілы і г.д.). Нават сам знешні выгляд чорнага варажбіта, гэтак як яго малююць народныя дарадцы, адштурхоўваў: неахайна апрануты, брудны, зарослы, нешта бубніць сабе пад нос, з гэтага можна улавіць праклёны-кляцьбу, глядзіць спадылба, трымаецца асобна ад іншых людзей. Каля яго хаціны баяцца лішні раз праходзіць, каб ненарокам не скінулася якая хвароба, зляк ці начніцы, ім палохаюць дзяцей, баяцца згадваць на ноч, але ў абавязковым парадку імкнуліся запрасіць на вяселле да маладых, каб не пакрыўдзіўся ды не наслаў якога суроку на новаўтвораную сям'ю, бо тады не будзе ў ёй ні ладу, ні шчасця, адныя згрызоты і спрэчкі. Асабліва ўражвае апісанне таго, як чорны варажбіт насылаў буру-навальніцу ці ўмешваўся ў сямейнае жыццё. Багацце прыкладаў, сабраных з тэрыторый ўсёй рэспублікі, а таксама са сведчанняў беларускіх і замежных фалькларыстаў. Мала гэтага, аўтар адзначыў, што смерць чорных варажбітоў — гэта аднachасова і нечуваны раней разгул прыродных стыхій, праяў нячыстай сілы, верныя слугамі якой яны былі пры сваім жыцці, запрадаўшыя душу. Судовыя працэсы ў адносінах да ведзьмароў і ведзьмаў, стыхійнае пакаранне іх пасля нібыта ўчыненага злачынства, нават само пахаванне, выходзіла за межы традыцыйнага, агульнапрынятага абраду. А. Ненадавец прасачыў у кнізе і тое, хто ж у народзе лічыўся сябрам нячыстай сілы: музыкі, пчаляры, кавалі, пастухі, вінакуры і млынары. І ён слушна даводзіць: "Зайздрасць ды нянавісць у адносінах да носьбітаў вясковых занятках-рамёстваў, асабліва тых, дзе патрабавалася сапраўднае майстэрства, талент (музыкі, пчаляры, кавалі, млынары). Пастухі і вінакуры апынуліся ў гэтым пераліку хутчэй з-за таго, што былі звязаны адны з жывёлай, і ад іх у многім залежала захаванасць асноўных карміцеляў любой сялянскай сям'і, а другія — вінакуры — напрамую лічыліся "братамі нячыстай сілы", бо разносілі, прадавалі, выраблялі той напой, які самага разумнага чалавека мог звесці з розуму, давесці да дурноты, да шаленства і г.д."

Кніга хораша аформлена (мастак М. Барздыка), афармленне вытрымана ў двух танах — чорным і белым, адным словам, — форма адпавядае зместу. А тое, што змест захапляе, чытачы павінны пераканацца самі.

**В. ЯЛТУХОЎСКАЯ**

---

ным цыкле Л.Дайнекі. Не менш дакладна даследчыцай зроблена расстаноўка ідэйных акцэнтаў у прозе К.Тарасава, аналізуецца яго псіхалагічнае майстэрства.

Адзін з раздзелаў кнігі Вольгі Шынкарэнкі – "Шматмернасць вобразнай і структураўтваральнай сістэм у творчасці В.Іпатавай". Як вядома, гістарычная проза гэтай пісьменніцы заўсёды напоўнена рэаліямі і гарачым дыханнем мінулых эпох. Яе творчасць вылучаецца, на думку даследчыцы, часцей за ўсё скіраванасцю на маральныя якасці асобы, вызначэнне месца чалавека ў жыцці, яго адносін да сапраўдных духоўных каштоўнасцей. Прозе пісьменніцы ўласцівы рэалістычная дакладнасць дэталяў, глыбокі ідэйны і эмацыянальны падтэкст. Чалавечая асоба і мастацкі вобраз у В.Іпатавай не проста з'ява сацыяльна-грамадская, але і арганічная праява свету прыроднага, частка самой гісторыі, пачуццё адзінства з якімі робіць яго паўнавартасным, гарманічна дасканалым.

У літаратуры наогул, а ў гістарычнай тым больш, ёсць настаўнікі і вучні. Нам падалося, што да апошніх, як найбольш таленавітых вучняў Ул. Караткевіча, даследчыца адносіць Ул.Арлова і В.Чаропку (раздзел "Слова і вобраз у архітэктоніцы твораў У.Арлова і В.Чаропкі"), уважліва аналізуючы іх гістарычную прозу і лёсы герояў, звязаныя тугім вузлом пакут і барацьбы. Менавіта яны перасцерагаюць нас ад забыцця і інертнага існавання без ідэалаў, высокіх духоўных перажыванняў. Але калі захопленасць аўтаркі кнігі, пацверджаная глыбінёй доследу і шчырасцю думкі, адчуваецца пры разглядзе прозы У.Арлова, то "Храм без бога" В.Чаропкі, як і ўся творчасць празаіка, хоць і прааналізавана з веданнем справы, аднак утрымлівае некаторыя элементы павярхоўнасці, паспешлівасці, што пакідае адчуванне непаўнаты разгляду матэрыялу.

Заключная частка кнігі "Асаблівасці хранатопу гістарычнага жанру на сучасным этапе" ўяўляе сабой агляд наробкаў многіх пісьменнікаў-сучаснікаў. Калі ўдумліва і няспешна ўчытацца, то можна заўважыць, што кожны з іх – А.Асіпенка, І.Шамякін, Г.Далідовіч, А.Пашкевіч, А.Лойка, В.Коўтун – яркія, адметныя асобы. Кожны з іх па-свойму таленавіта і няззмушана, шчасліва пазбягаючы аднастайнасці, ведаючы меру ў выкарыстанні псіхалагічных колераў, робіць усё гэта з душой, адчуваннем суровай праўды жыцця, а таму і атрымаліся характары ў іх творах сапраўдныя, няўрымслівыя.

У падагульненне хацелася б падкрэсліць, што ў нашым літаратуразнаўстве з'явілася нарэшце вартае ўвагі даследаванне паэтыкі гістарычнай прозы, так патрэбнае ўсім, хто цікавіцца сваёй мінуўшчынай, каранямі нашай Бацькаўшчыны. Акрамя таго, кніга "Нястомных пошукаў дарога" мае практычнае значэнне. Яна адналькава зацікавіць навукоўцаў, выкладчыкаў, студэнтаў, настаўнікаў, вучняў, кожнага, каго хвалюе і каму неабыякавая наша гісторыя. Як нам падаецца, аўтару даследавання яшчэ ёсць што сказаць чытачу з безлічы вартага і значнага. Таму няхай яе нялёгкая і, поўная нястомных пошукаў, дарога доўжыцца як мага далей. Плённа, з карысцю для сябе і іншых.

**Вера ГЕНАШ**

---

ДАНІНА ПАВАГІ

# ПАЭЗІЯ – КАТЭГОРЫЯ ВЕЧНАСЦІ

***10 лютага споўнілася 65 гадоў з дня нараджэння выдатнага рускага паэта і празаіка Юрыя ФАТНЕВА.***

***Юрый Сяргеевіч Фатнеў нарадзіўся ў сяле Акімаўка Краснаўчокаўскага раёна Алтайскага краю ў сям'і ваеннаслужачага. Перад пачаткам Вялікай Айчыннай вайны разам з бацькамі пераехаў на Беларусь. Пад час акупацыі жыў у вёсцы Старыя Дзятлавічы Гомельскага раёна. У пасляваенны час — у Гомелі, Стоўбцах, Пінску, вёсках Мархачоўшчына і Новы Свержань Стаўбцоўскага раёна. У 1956 г. пераехаў у Казахстан. У 1965 г. вярнуўся на Беларусь, жыў у Гомелі. У 1974—1990 гг. — у Бранску і Гатчыне. Восенню 1990 г. зноў пераехаў у Гомель. Член Саюза беларускіх пісьменнікаў з 1967 г.***

***Першы верш надрукаваў у 1955 г. у стаўбцоўскай раённай газеце "Голас селяніна". Аўтар кніг паэзіі, якія выходзілі ў Алма-Аце, Мінску, Маскве, Туле і Гомелі.***

***Віншуем Юрыя Сяргеевіча з 65-годдзем і жадаем здароўя, творчых удач і творчага плёну.***

Усё часцей даводзіцца чуць: паэзія цяпер нікому не патрэбна, зорны час яе, маўляў, мінуў. Думаю, што гэта не так. І раней паэзіяй цікавіліся нямногія. Проста былі зусім іншыя ўмовы для яе развіцця. Так, нізка матэрыяльны ўзровень жыцця людзей і бездухоўнасць нашага грамадства, вядома, адмоўна адбіліся і на цікаўнасці да паэзіі. Але сама Паэзія, незалежна ад умоў, спрыяльных ці неспрыяльных для яе, была, ёсць і будзе...

У Гомелі, на вуліцы Катуніна, у невялікім цесным пакойчыку маласямейкі, жыве выдатны рускі паэт і празаік Юрый Сяргеевіч Фатнеў. Чалавек нялёгкага лёсу, вельмі патрабавальны да іншых і сябе, сумленны і праўдзівы, часам жорсткі і бескампрамісны ў сваіх ацэнках, за што звычайна і расплачваецца, не прыстасаваны да ўсіх складанасцей нашага жыцця, не зразуметы і нават для многіх знаёмых проста дзівак, але заўсёды ўпэўнены ў сваіх здольнасцях і магчымасцях, цвёрда перакананы ў тым, чым займаецца ўсё жыццё, бясконца аддадзены яе вялікасці Літаратуры.

*На жаль, ягоная* творчасць, няглядзячы на выдадзеных адзінаццаць паэтычных кніг і некаторыя празаічныя творы, што друкаваліся, у асноўным, у рэгіянальным часопісе "Палессе", шырокаму колу чытачоў мала вядома. Лепшыя творы пісьменніка (а гэта перш за ўсё вялікае эпічнае палатно ў вершах "Сны Земли") да чытача пакуль што не прыйшлі. Хаця ёсць ту, відаць, і свая заканамернасць: творцаў яркіх, адкрытых, не падобных на іншых, сучаснікі не заўсёды разумеюць. А тое, што Юрый Фатнеў паэт і празаік яркі, самабытны, талент ад Бога, талент выключнай лірычнай сілы – бясспрэчна.

Сапраўдны паэт – заўсёды з'ява, вялікая рэдкасць. І не кожны, хто піша вершы, мае права называцца паэтам. Хаця, як мне здаецца, апошнім часам адбываецца падмена панняцця. Многія, у каго з'явілася магчымасць выдаваць свае творы (а цяпер гэта не складана: выдавай, што хочаш – абы толькі грошы), вопрамеццю рынуліся ў літаратуру. Яно хай бы і так, каб сапраўды былі пазначаны Божай іскрай. Але самацветы, як вядома, не валяюццаў пыле на дарозе...

Нарадзіўся Юрый Фатнеў на Алтаі ў 1938 г. у дзень памяці А. С. Пушкіна. Бацька яго, Сяргей Сямёнавіч Фатнеў, быў чалавекам вайсковым, і таму сям'я пераязджала з месца на месца. Перад вайной з Манголіі яго накіравалі на Беларусь, куды ён і перавёз сваю сям'ю: спачатку ў Гомель, а потым у Пінск. У першыя дня вайны палітрук Фатнеў не паспеў эвакуіраваць сям'ю і вайна застала Таццяну Гаўрылаўну з пяццю дзецьмі ў вёсцы Старыя Дзятлавічы, што пад Гомелем. Сасновы бор, праз гады з любоўю апеты паэтам, не раз надзейна хаваў палітручыху (іак звалі ў вёсцы яго маці) і дзяцей ад расстрэлу. Многа жахлівага і трагічнага давялося пабачыць і перажыць за гады акупацыі хлапчуку. Пасля ж вайны цяжкая хвароба на цэлых дзесяць гадоў прыкавала яго да бальнічнага ложка. Сярэднюю школу закончыў ён, знаходзячыся ў бальніцы. І першую паэтычную кніжку прынеслі яму ў бальнічную палату. Вершы Юрыя Фатнева спадабаліся Самуілу Маршаку, і той горача падтрымаў маладога паэта. Сталічныя газеты і часопісы паступова адчынялі яму дзверы ў вялікую літаратуру. Пасля выхаду пятай кнігі ў выдавецтве "Молодая гвардия" з Маскве ў Гомель, дзе жыў тады паэт, прыехала здымачная група, каб зняць пра яго лёс дакументальны фільм. Але Юрый не захацеў жыць па чужым сцэнарыі, не захацеў станвіцца "героем нашага часу". І як вынік прадалюбства і нязгоды ілжывай пафаснасцю — перасталі друкаваць. Яго імя надоўга знікла са старонак газет і часопісаў. Што можа быць працей — перастаць друкаваць, і паэта як бы ўжо не існуе. Юрый Фатнеў "не існаваў" для чытача нямала гадоў. Праўдзівасцб і сумленнасць творцы заўсёды недаравальна. Ні Саюз пісьменнікаў, так, той самы, яшчэ моцны і ўплывовы Саюз пісьменнікаў, ні часопісы і выдавецтвы, куды не раз звяртаўся са сваімі творамі і просьбамі Юрый Фатнеў, не пажадалі пачуць яго. Сорамна сказаць, але за трыццаць сем гадоў жыцця пісьменніка на Беларасі ў яго ў Мінску выйшла ўсяго адна танюсенькая кніжачка вершаў памерам адзін аркуш ("Поет рожок у Сожа", 1967). Дзіўна і парадаксальна: у Мінску яго творы не друкуюць таму, што ён рускі пісьменнік, а ў Маскве — што ён беларускі.

Але, як кажуць, свет не без добрых людзей. І яны знайшліся: не ў Мінску, дык у Гомелі. Тут у Юрыя Фатнева выйшлі кнігі паэзіі: "Птицы ночи","Еще оглянусь на Отчизну..." і "Русская печаль". Празаічныя ж творы пісьменніка неаднаразова з'яўляліся ў рэгіянальным часопісе "Палессе".

Я не збіраюся аналізаваць яго апошнія кнігі. Не той выпадак, ды і хай займаюцца гэтым крытыкі. Але скажу наступнае і, бадай, самае галоўнае: як даўно ў рускай паэзіі такога высокага паэтычнага голаса, як даўно не сустракалася ў сучаснай паэзіі такога ўзроўню, дасканаласці, пранізлівасці і адкрытасці. Шчымлівая інтанацыя, шчырасць, праўдзівасць, безаглядная смеласць, пранікнёнасць, незвычаная поліфанія прысутны ягонай паэзіі, якая ад пачатку да канца пранізана любоўю да роднай зямлі, болем за яе. Гомельшчына і, у прыватнасці, Палессе — адзін з жыватворных вытокаў ягонай творчасці. Ад кнігі да кнігі паэт падымаецца ўсё вышэй і вышэй, і яго ноша становіцца ўсё цяжэй і цяжэй. Небасхіл ягонай паэзіі часам такі высокі, што ажно кружыцца галава. Чытаючы Юрыя Фатнева, разумееш адно: паэзія — катэгорыя вечнасці.

**Міхась БАШЛАКОЎ**

# ВІТАЛІ ЮБІЛЯРА ЗЕМЛЯКІ

Такога пісьменніцкага дэсанта Буда-Кашалёўшчына дагэтуль, бадай, яшчэ не бачыла. А прыехалі сюды Уладзімір Ліпскі, Мікола Маляўка, Уладзімір Дзюба, Васіль Ткачоў, Анатоль Зэкаў і Мікола Чарняўскі. Зрэшты, апошні ў гэтым спісе і стаў якраз вінoўнікам урачыстасцей: малая радзіма паэта адзначала яго 60-гадовы юбілей.

Праўда, пачаўшыся ў Мінску, пісьменніцкі маршрут напачатку пралёг у Гомель, дзе юбіляра і яго світу прыняла намеснік старшыні аблвыканкама Раіса Ціханская. Яна ўручыла Міколу Чарняўскаму падзяку кіраўніка вобласці, а славуты зямляк у адказ — бібліятэчку напісаных ім кніг.

На вечары ў Буда-Кашалёўскім раённым Доме культуры юбіляра віталі старшыні райвыканкама і райсавета дэпутатаў Мікалай Чарныш і Аляксандр Галіцкі. Юныя прыхільнікі таленту Міколы Чарняўскага прачыталі яго вершы, а сябры-пісьменнікі падзяліліся ўражаннямі аб асабістых стасунках з паэтам, распавялі гаворку пра яго творчасць, пазнаёмілі прысутных з уласнымі творамі. Удзельнікі Дзяржаўнага ансамбля "Свята" Вячаслаў Статкевіч і Сяргей Сарокін аздобілі вечар песнямі, у тым ліку і напісанымі на вершы Міколы Чарняўскага.

Яшчэ больш кранальна прайшла сустрэча на радзіме паэта — у вёсцы Буда-Люшава. Сябры-пісьменнікі разам з юбілярам наведалі таксама могілкі, дзе ўсклалі кветкі да магіл яго бацькоў.

Анатоль ЗАРЭЦКІ

# СВЯТА ДУШЫ

У светлым утульным доме Коласа — у музеі беларускага песняра — адбылася ўрачыстая вечарына з нагоды 95-годдзя з дня нараджэння скульптара Заіра Азгура.

На ўрачыстасць было запрошана шмат ганаровых гасцей: сын Азгура Заірыд Заіравіч Азгур, сын Я. Коласа Міхась Канстанінавіч Міцкевіч, дацэнт БДУ Вольга Васільеўна Казлова, мастак Уладзімір Уродніч, пісьменнікі Уладзімір Мехаў і Васіль Зуёнак. Прысутнічала шмат прыхільнікаў таленту Заіра Ісакавіча, сярод іх школьнікі і мы, гімназісты. Вёў вечарыну старшы навуковы супрацоўнік музея Коласа Іван Курбека.

Госці расказалі прысутным шмат цікавых эпізодаў з жыцця і творчасці народнага мастака. Усе адзначалі, што Заір Ісакавіч быў выключна таленавітым скульптарам. Ужо з 15 гадоў ён прымаў удзел у выставах і мог прызавыя месцы. Вельмі любіў людзей, быў тонкім псіхолагам. Усе скульптурныя партрэты зроблены ім з вялікай любоўю, у кожным з іх перададзены душэўны стан чалавека. Па асобных дэталях нават можна пазнаць эпоху, у якую жыў той ці іншы дзеяч.

У канцы вечарыны выступіў ансамбль "Мінскі гармонік" пад кіраўніцтвам Івана Раманчука.

Пасля мы наведалі мемарыяльны мастацкі музей Заіра Азгура. Там нас сустрэлі таксама вельмі ветліва, паказалі ўсе залы. Сярод скульптур мы лёгка пазналі партрэты Францішка Скарыны, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Цёткі, Цішкі Гартнага. На экскурсіі даведаліся пра тэхніку стварэння скульптур, бачылі прылады, якімі карыстаўся мастак. З задавальненнем разгледзелі карцінную галерэю Галіны Азгур — жонкі Заіра Ісакавіча.

Мы вельмі ўдзячны супрацоўнікам музеяў за свята, якое яны стварылі для нас.

Вераніка ШАЎКАЛА, Карэн АГАЕЎ, навучэнцы УП "Гімназіі Сямёнавай А. В.", г. Мінск

ФОТА А. ФЕДАРЭНЧЫКА



**Алег САЛТУК**



## ЛІСТАПАД

*Пачынаюць лісты з дуброў*
*Ападаць зусім нечакана...*
*Не шкадуйце харошых слоў*
*Для людзей дарагіх, для каханых.*

*Ападаюць лісты, ляцяць,*
*Нібы рой матылькоў калярoвы.*
*Неспрэчны закон жыцця —*
*Паміраць, каб радзіцца нанова.*

*Лета бабінага ціхі ўздых*
*Паляцеў у далінах і высях.*
*Павуцінкі на скронях маіх*
*Не сягодня ўжо прыжыліся.*

*А лісты плывуць над зямлёй,*
*Да якой мы навек прыкуты.*
*У любімай, адданай маёй*
*Вочы сумам ласкавым крануты.*

*Не шкадуйце ж харошых слоў,*
*Гаварыце вы іх паболей...*
*Ападае лісце з дубоў,*
*І ўмяшчаецца ў сэрцы ізноў*
*Цэлы свет жальбы і любові.*

## ТЫ

*Ты заснеш ля маіх грудзей.*
*Спі, будзіць цябе доўга не стану.*
*Буду слухаць, як вецер гудзе,*
*Як плывуць над зямлёю туманы.*

*Што ты спіш, не магу адгадаць,*
*Дзе ты ў снах сваіх добрых вандруеш.*
*Ціха вецер гудзе ў праводах*
*І туман за парогам начуе.*

*Твае рукі абнялі мяне.*
*Мне так хораша сёння без краю.*
*Ты — мая і наяве, і ў сне,*
*Я з табою пра ўсё забываю.*

*Пра свае забываю гады,*
*Усім і ўсе свае крыўды дарую...*
*Ты — мая, а я — твой назаўжды.*
*Я цябе прадчуваю і чую.*

## ПАРАДОКС

*Хоць ты смейся, хоць ты плач,*
*Ці радзіся зноўку:*
*На адным плячы — крумкач,*
*На другім — салоўка.*

*У адной далоні мёд,*
*У другой атрута.*
*Паміж імі пасярод —*
*Шчасце і пакута.*

*А ў сярэдзіны няма*
*Ні канца, ні краю.*
*Ці то воля, ці турма,*
*Я і сам не знаю.*

*Хоць ты смейся,*
*Хоць ты плач —*
*Пэўна, доля злая:*
*Ні салоўка, ні крумкач*
*З плеч не адлятаюць.*

## ЗАВЕЯ

*Тры начы і тры дні галасіла завея,*
*І сумёты пад стрэхі амаль намяла.*
*Цераз поле і лес я пайду, як заднее,*
*Да свайго пасівелага раптам сяла.*

*Ці ад снегу яно раптам так пасівела,*
*Бо нядаўна ж зусім не такое было?..*
*Неўпрыкмет пастарэла душою і целам*
*І па самыя вокны ў зямельку ўрасло.*

*А вятры і завеі, маразы, залевы*
*Сваю вечную справу зрабілі спаўна.*
*Куды вокам ні кінь, ці то справа налева,*
*Ці то злева направа — праява адна.*

---

**Аксана СПРЫНЧАН**



## пяЛЁСтак

*Каву з пялёсткам язміну*
*месяц спрабуе выпіць,*
*знікае*
*ў белым пялёстку*
*дня.*
*Сон, у якім*
*мяне не было...*
*быў...*
*плыў*
*самотным пялёсткам...*
*Лёс.*

●

*Павуцінне*
*з аблокаў...*
*Поўня,*
*нібы павук,*
*што напоўніўся*
*позіркамі тых,*
*хто не глядзіць*
*на дарогу...*

●

*Раней была твая.*
*Чужая — цяпер.*
*Але ў цябе з'явілася*
*мара.*

*Я —*
*твая Вільня.*

*Я не з тымі,*
*хто не марыць*
*пра мяне...*
*Я не з тымі,*
*хто не спадзяецца...*

●

*Знябытая,*
*нібыта не было*
*з нябёсаў знаку*
*быць.*

*Няўжо,*
*каб быць,*
*знікаю?*

●

*Ab exterioribus ad interiora**

*Ты клічаш мяне*
*на вузкія вуліцы Вільні.*
*Я прапаную блукаць*
*па полацкіх лабірынтах.*
*Але чамусьці ты верыш*
*толькі ў тое,*
*што ёсць на картах...*
*І мы паедзем у Вільню.*

## ГІСТОРЫЯ АДНАГО КАХАННЯ

*Два дрэвы*
*кахалі адно аднаго*

* Ад знешняга да ўнутранага (лац.)

---

***Мікола Кандратаў нарадзіўся ў 1957 г. на Талачыншчыне. У 1978 годзе скончыў матэматычны факультэт Мінскага педінстытута. З 1981 г. працуе інжынерам-праграмістам у Мінскім аб'яднанні вылічальнай тэхнікі. У 2002 г. у выдавецтве "Беларускі кнігазбор" выдаў зборнік вершаў "Возера Рудакова".***

***Вершы Міколы вызначаюцца рамантычнасцю, свет, які адкрываецца ў іх — вельмі светлы, шчымлівы, з яркімі вобразамі і непадробнай беларускасцю.***

**Мікола КАНДРАТАЎ**



●

*Калі раптам мой скончыцца век,*
*ты старонкі мае пагартай —*
*да цябе я вярнуся праз верш,*
*каб суняць твайго сэрца адчай.*

*Калі ж верш не аслабіць тугі,*
*з люстра памяці крэп адхіні,*
*каб запоўнілі зноў берагі*
*незабыўныя ночы і дні.*

*Калі й памяць не высіліць боль,*
*гаркаватага смутку прыгон,*
*ты збалеламу сэрцу дазволь*
*ненадоўга забыцца праз сон.*

*Ува сне я з'яўлюся тады,*
*каб прызначыць спатканне з табой*
*у наступным жыцці праз гады —*
*у звычайнай краіне зямной.*

●

*Пакуль яшчэ ты снішся мне,*
*я веру, што не ўсё прапала,*
*што дзень не згасне ў навіне,*
*падобнай горнаму абвалу.*

*Яшчэ не дагарэў агонь,*
*якім каханне сэрца грэе,*
*пяшчотнай хоча быць далонь,*
*яшчэ пакуль не вечарэе.*

*Не зроблены апошні крок*
*за рысу, за якою пуста.*
*І пацалункаў райскі сок*
*ажывіць стомленыя вусны.*

●

*Наталяе сэрца прыгажосцю*
*восень зноў шматколерным крылом,*
*ахінае ім бацькоўскі дом*
*у маленькай вёсачцы Замосце.*

*Завітаю на світанні госцем, —*
*піць натхненне восені нагбом*
*мне прыемней, чым вясновым днём*
*каштаваць напоі маладосці.*

*Золкім ранкам залатога дня*
*абдымае плечы цішыня,*
*наплывае лёгкі пыл самоты.*

*У таемна-светлы час такі*
*адпускае восень мне грахі,*
*і губляе сэрца пазалоту.*

●

*Ноч за вагонным акном*
*часам гаворыць без слоў*

*Зайцаў след адзінокі*
*па снезе крадзёцца,*
*І са снегу самотны завіўся дымок.*
*Ні душы... Калі сэрца маё разарвецца,*
*Можа ўбачыць звысоку адзін толькі Бог.*

*Ні душы, ні агню не відаць,*
*ні сцяжынкі.*
*Толькі белая бель,*
*толькі крук на калу...*
*Вось таму і спраўляла завея памінкі*
*Тры начы і тры дні па былому сялу.*

## МАЦІ

*І вятры шалелі праз ноч,*
*І снягамі ўжо плакалі высі,*
*І жыццё ляцела наўзбоч,*
*І малілі губы:*
*— Вярніся!..*

*Без папрокаў і крыўдных слоў*
*Адбалела душа твая ў целе.*
*Мае ж рукі ізноў-ізноў*
*Твае плечы абняць хацелі.*

*Ды лягла ты навекі ўжо.*
*Дагарала ў галовах свечка.*
*І рабіла цябе чужой*
*Ля труны тваёй белае вечка.*

*Я маліўся, як мог і ўмеў*
*Прад гаручыя даўкія слёзы,*
*І ўсяго больш на свеце хацеў,*
*Каб ты спаць не пайшла пад бярозы.*

*Ты пайшла.*
*Дзесяць год з той пары*
*Адышло, адгуло, адшумела.*
*Як тады, зноўку плачуць вятры*
*І ад слёз скалынаецца цела.*

---

*ўсё жыццё.*
*Шчасце памерці*
*ў адзін дзень*
*вы-пі-ла-ва-ла ім*
*піла.*

●

*Мне не бывае сумна,*
*ды сум бывае ад таго,*
*што не бывае*
*неба*
*ў небыцці.*

## ТЛУМАЧЭННЕ РЫФМАЙ

*Жанчыны, закаханыя па вушы,*
*мужчыны, закаханыя па вочы.*
*Таму жанчыны і шукаюць душы,*
*таму мужчыны і шукаюць ночы.*

●

*Начуе мядзведзіца зорная*
*над хатай маёй.*
*Выпалю грубку мацней —*
*хай будзе ёй цяплей.*

## КАКТУС

*За падарунак дзякуй...*
*Мільён крывавых ружачак*
*у маіх руках.*

---

*для неадоленых сном*
*нешта на мове агнёў.*

*Ноч за вагонным акном,*
*быццам вандроўны паэт,*
*скласці санетаў вянок*
*хоча пра цэлы Сусвет.*

*Ноч за вагонным акном —*
*родам з касмічных начэй —*
*зорным напоіць віном,*
*каб не расплюшчыў вачэй.*
*х*
*Праз майскае квітненне дня зямнога,*
*праз хараство жытнёвых краявідаў,*
*праз восеньскія ліўні леанідаў*
*спяшаецца жыццёвая дарога:*

*хаваючыся ў ранішнім тумане,*
*звужаючыся часам у сцяжынку*
*і ў рэдкія хвіліны адпачынку*
*кранаючы душу замілаваннем;*

*мінаючы выбоіны, каменне,*
*карэту прапануючы ці човен,*
*душэўны адзначаючы узровень*
*прамежкам ад адчаю да натхнення.*

*А ад натхнення — блізкі шлях да веры.*
*Надзеяй сэрцы шчырыя спавіты:*
*пакуль дарога будзе — будуць вершы...*
*І кожны верш імкнецца да малітвы.*

**ПРОЗА**

# КНОПКА ПАДВЯЛА

**Віктар ДАЙЛІДА**

Іван Алдухін скончыў універсітэт і працаваў журналістам у раёнцы. Надакучыла яму райкамаўская апека. Ён падаўся ў ВПШ, паспяхова скончыў. "Ну, — думаў, уваходзячы ў абкам, — зараз мне прапануюць пасаду Першага. І можа, нават у самым салідным раёне. Як-ніяк, два дыпломы. Тады трымайцеся, панове." І хоць Іван Сазонавіч быў у чорным з-пад іголачкі касцюме і ў новенькай беласнежнай кашулі, у яго галаве мільганула думка: адразу ж па прыездзе ў раён заказаць новы касцюм. Ды не чорнага і не сіняга колеру, як у нейкага нарыхтоўшчыка, а стальнога, металічнага, што нержавейка. Новы плашч, новыя чаравікі і абавязкова белыя шкарпэткі. Каб усё звінела. Як сталь. Хай тады члены актыву, гэтыя падхалімы, гэтыя абознікі, таксама пераабмундзіроўваюцца. Бо было ж такое неаднойчы. Як толькі Першы надзене чорны касцюм, назаўтра, глядзіш, амаль усе абознікі сядзяць на актыве ў чорным. Як гракі. Даруй, Божа, нібы каго пахавалі. Надзене зялёны — усё ў зялёным. Ажно зелянее ў вачах. А ўсцягнуў бы ён на сябе, скажам, жоўтыя порткі, даруйце, з чырвонай кветачкай ззаду, назаўтра ўсе актывісты хадзілі б таксама з чырвонымі кветачкамі. От бо ўжо дружнае племя!

Але выходзіў з абкама Алдухін, як мокрая курыца: яму прапанавалі толькі пасаду лектара. Ён круціў носам, аднекваўся, маўляў, і так і гэтак, але яму даводзілі сваё: няма вакансій, і ўсё тут. "А будуць, будуць, канечне. Вы ж самі ведаеце, — гаварыў адзін тып, які Івану Сазонавічу надта не спадабаўся, — яны ж, гэтыя кіраўнічкі, часам злятаюць з пасад, як дроздзікі. А чаму? Бо не кожны можа пацягнуць такую ношу, як улада. Глядзіш, адзін прапіўся, другі пракурыўся, той пракраўся, а гэты пра... прабадзяўся. Так што не бядуй, братка. Яшчэ паспееш. Я таксама лектарам пачынаў. А цяпер, дзякуй Богу, сам бачыш. А што маеш два дыпломы ды яшчэ з чырвонымі палоскамі, дык гэта ж для лектара — цуд! Ты ж будзеш у райкаме самым адукаваным чалавекам... Ну, вядома, пасля Першага. Так што дуй, браток, не азірайся. І не гнявi Бога. Гэта ж табе не ў школе дзяцей вучыць і не эстэтыку чытаць пэтэушнікам. Ты ж лектар раённага маштабу.

Ён паляпаў Івана Сазонавіча па плячы і, здалося, нават падпіхнуў яго да дзвярэй, маўляў, ляці хутчэй, асталоп, бо будзе позна.

Прыехаў Алдухін у раён і жахнуўся: у калгасах крадзеж, бескультур'е, самагонаварэнне. Мала таго, дык яшчэ ў райкаме і кабінет яму адвялі якраз каля жаночага туалета. І неяк з першых дзён, як выйдзе Іван Сазонавіч перакурыць, з туалета адразу вылятае гэтая Філька Карпаўна Хлабукіна, ідэалагічка, і сукенку папраўляе. Аднойчы яна нават хмыкнула:

— А вы ўсё на пасту, таварыш лектар!

— Так точна, Філька Карпаўна. Ахоўваю вашу рэзідэнцыю... — выпаліў і спахапіўся, але было позна: слова не верабей...

А яна:

— Ха-ха-ха... — ці засмяялася, ці прагаварыла. Потым, уздымаючыся па прыступках на другі паверх, прыпынілася, нібы апамятаўшыся, паківала галавой, маўляў, нічога сабе лектар. А ён уздыхнуў:

— Ой, пачвара, ой, бяда на маю галаву! Заесць, рабэйза няшчасная...

А яна і праўда, рыжая, як пярун, і рабая, што тарка. А нос не раўнуючы, як падгерац. Праўда, сама ў целе, падцягнутая, здаровая, ногі — белыя, у дробным рабаціnні. Як ідзе, дык ажно лёскат па калідоры, ажно іскры з-пад пят вылятаюць. Яе апякаў інструктар, нейкі Барыс Барысавіч Штопар — чарнамазы, шустры. Дык яна цераз гэтага Штопара ўсё даручэнні давала новаму лектару. Той абклаў Алдухіна з усіх бакоў паперамі — галавы не відаць. Лектар распіхаў іх то ў шафы, то ў шуфляды, а паперы раслі, як горы. А Філька на кожнай лятучцы ўсё пачынала "ідэалогію" з лектара. "Дрэнна, павярхоўна, бедна". У лектара ў вушах толькі і стаялі словы: "Вузка, цесна, мала". "О Божа! — уздыхаў неаднойчы Іван Сазонавіч. — І адкуль гэтая навалач насунулася на маю галаву! Ну, хоць бы жанчына як жанчына, а то адно страхоцце. Перастарак няшчасны. У іншы райкам зойдзеш, бывала, дык сядзіць ідэалагічка, як кветачка. Абкамаўскія тузы пафліртаваць прыязджаюць".

І ён успомніў той час, калі працаваў яшчэ газетчыкам. У іхнім райкаме была адна асоба, дык тая нічога не рабіла, а толькі сядзела і ручку падстаўляла, якую наперабой цалавалі абкамаўскія і рэспубліканскія кіты. А гэта — чорт ведама што.

Іван Сазонавіч рваўся з усіх жыл. Распрацаваў і размножыў лекцыі "Тры крыніцы і тры састаўныя часткі марксізму", "Аб перамозе камунізму ў адной асобна ўзятай краіне і ва ўсім свеце", "Агалцелы амерыканскі імперыялізм — злейшы вораг беларускага народа". Наладзіў выпуск "Калючак", "Кракадзілаў", "Вожыкаў". І ўсё роўна: "Лайдачым, таварыш лектар. Дзе вашы цыклы? Вы нам цыклы давайце," — і павядзе носам-аглобляю.

Аднойчы выйшаў ён з лятучкі злы, як воўк, а насустрач наведвальнік:

— Скажыце, калі ласка, а дзе тут таварыш Штопар знаходзіцца?

— Хто, хто?

— Таварыш Штопар...

— Няма ў нас ніякага Штопара! — ледзь не закрычыў лектар. — У нас ёсць Фількін-Штопар. Дык шукайце яго ў туалеце або ў Фількі ў кабінеце.

Падхалімы тут жа данеслі. Ну, і рэзала ж яна яго потым. Пырскі ляцелі. Але таго Барысавіча ўжо ўсе, нават Першы, называлі Фількін-Штопар. І рагаталі...

А тут раптам пайшла пагалоска, што будзе ў райкаме вялікая пяратурбацыя, што прыязджае з цэнтра новы Першы і будзе склёпваць сабе новы кабінет! Ну, — думаў Алдухін, — вось тут яшчэ шчасце можа ўсміхнуцца. Калі не другім, то хоць трэцім. Няўжо ж мне не давераць ідэалогію? Абяцаў жа той хмыр. Вось тады б ты, дырда насатая, сама падзяжурыла каля туалета. Тады я табе сказаў бы: "Ну-ка, Філька, чорт, пляшы..."

І неўзабаве новы шэф сапраўды з'явіўся. Аказваецца, нехта наверсе хацеў уторкнуць яго міністрам, дык трэба было "прапусціць" яго праз райкам, каб "падфарбаваць" біяграфію. Былога шэфа адразу побаку, а гэтага прывезлі, як ксяндза. Новы зваўся Сан Саныч, а прозвішча яго было Загібайла. Чалавек ён быў просты, непераборлівы, і, відаць, за гэта раённыя журналісты сталі называць яго між сабой таксама проста — Сашка Сашкавіч. Ага, дык першае, што зрабіў Сашка Сашкавіч, гэта даў правільную ацэнку ўсім якасцям ідэалагічкі Фількі. Імгненна, з першага позірку. Адно правёў вокам знізу да верху і зверху да самага нізу. І пайшло-паехала.

А потым пачаў фармаваць кабінет. Аднаго — туды, іншага — сюды. Скажам, гэтага — на ЖКХ, таго — на Чармет. А Фільку — другім, па ідэалогіі. Каб была побач. Пры дзеле... А калі даведаўся, што каля яе ашываецца гэты Барыс Барысавіч, дык адразу так яго турнуў, што той, небарака, імгненна аказаўся загадчыкам лазні. А потым дачуўся, што Алдухін даў прозвішча Барысу Барысавічу Фількін-Штопар, і вельмі ж рагатаў. Неяк стаялі яны на калідоры побач, надта падобныя, як браты. Абое гладкія, маладжавыя, чыста паголеныя і ў абодвух на насах прасвечваліся сінія пражылкі. Загібайла ляпаў лектара рукой па круглым плячы і праз смех гаварыў:

— Ну, гумарыст, Іван Сазонавіч... го-го-го... Фількін-Штопар... ах-ха-ха... Футурум... — ён чамусьці любіў паўтараць гэтае слоўца.

А ў Алдухіна голас громкі, не раўнуючы, як у бегемота. І ён уторыў Сашку Сашкавічу: "Га-га-га... Гы-гы-гы..."

Філька Карпаўна заўважыла, як папанібрацку рагатаў Алдухін з Першым, і назаўтра выклікала лектара "на ковёр".

— Вось так. Каб усе цыклы былі распрацаваны тэрмінова. І асабліва антыалкагольны. Інакш — труба.. Гэта абяцаю вам я, другі сакратар РК КПБ. І яшчэ параю: анекдоцікамі не асабліва захапляйцеся.

Алдухін вылецеў з кабінета, даруй Божа, як корак з пляшкі. Цяпер ён ужо не марыў аб пасадзе сакратара. Не! Ён баяўся, каб хоць утрымацца на сваёй пасадзе. Бо так падхалімы даносяць! Не ўспееш пшыкнуць, як Філька ўсё ведае.

Аднойчы на грамадзянскай абароне ў час перапынку каля Алдухіна сабралася шмат членаў актыву, і той пачаў травіць:

— А ведаеце, хлопцы, што я зраблю, калі навісне пагроза атамнай вайны? Нацягаю ў калодзеж кансерваў, сухароў, піва, гарэлкі. І сам залезу. Ну, колькі можа працягвацца атамная вайна? Два, тры дні. Потым, калі адшуміць гэты грыб, вылезу, збяру ўсіх, хто дзе застаўся, і крыкну:

— Людзі, слухай мяне! Я — сакратар падпольнага абкама...

Назаўтра Філя зноў "рэзала" Алдухіна, нават "шыла" палітыку. Папярэдзіў лектара і Загібайла: "Ты, старына, не дуры з такімі рэчамі". І раптам зарагатаў:

— Ну, Сазонавіч, ну і ўмора. Фількін-Штопар. Ха-ха-ха...

І на гэты раз пранесла.

А тут якраз надыходзілі майскія святы. Філя Карпаўна, як новы сакратар па ідэалогіі, рашыла правесці дэманстрацыю працоўных шырока, маштабна. З калгасаў павінны прыбыць трактары, машыны, камбайны, коні, сеялкі, веялкі, арфы, баронкі, спрыжыноўкі, плугі, сошкі — уся тэхніка, увесь інвентар павінен прайсці перад трыбунай. Новы Першы ёй не замінаў, маўляў, рабі, што хочаш, поўная воля. Раз ты мне давяраеш, дык і я табе давяраю. Як гаворыцца, ты — мне, я — табе. Дар за дар...

Загібайла толькі параіў паставіць вяшчальнікам Алдухіна. І калі Філя запярэчыла, стаў даводзіць:

— А што, голас у яго цудоўны, барытон. Драматычны барытон. А калі нос крыху сiнявата, то яго ж можна і падпудрыць. Гэй, дробязь, — Загібайла засмяяўся і падумаў: "Фількін-Штопар! Хі-хі-хі! Футурум..."

Тады яна махнула рукой:

— Так і быць, згодна. Толькі папярэджваю, гэта яму апошні шанц апраўдацца.

Нарэшце, надышла тая дэманстрацыя. На трыбуне — начальства, ветэраны, перадавікі. Усе пры медалях. Тут і піянеры з кветкамі, са сцяжкамі.

Першы даручыў зрабіць уступнае слова Філі. Яна павіншавала працоўных, а лектар пра сябе хмыкнуў: "А, не той галасок, перапёлачка..."

Потым паплылі калоны дэманстрантаў. Як пісаў паэт: "Калоны за калонамі пад сцягамі чырвонымі плывуць, як хвалі рэк..."

Алдухін мікрафон "да халявы" і адразу: "Няхай жыве Першае Мая — дзень агляду баявых сіл працоўных усіх краін!" "Пабудуем камунізм у адной асобна ўзятай краіне, а потым і ва ўсім свеце!"



Магутнае "Ура!" рэхам пакацілася па горадку.

І вось ідуць аўтарамонтнікі — хораша, роўна. Алдухін зноў:

— Прывітанне слаўным працаўнікам аўтарамонтнага!

А яны: "Ура! Ура!" Загібайла зірнуў на Філю: "Цудоўна! А вы баяліся!"

— Галоўнае ўзяць яго за шчэлепы, — усміхнулася яна.

Але тут раптам вытыркнуўся і параўняўся з трыбунай мясакамбінат. Ідуць "байцы", лупільшчыкі, раздзельшчыкі, кілбаснікі. Алдухін зірнуў і жахнуўся: Божа мой, брыдуць натоўпам, не раўнуючы, як быдла, як на бойню. Спераду два "байцы" нясуць нейкі аблуплены транспарант: "Дагонім Амерыку!" Мусіць, недзе яго на гарышчы выпаралі. Адзін "баец" клыгае ўкосікі, другі — раве, песню нейкую цягне. Але нічога не папішаш, трэба вітаць і гэтых. І Алдухін закрычаў: "Слава працаўніцам мясакамбіната!" А яны: "Ар-ра... Ар-ра..." Як воранне. Ну, тут Алдухін і не сцярпеў, рэзнуў у тры паверхі:

— Ах, сволачы, кілбасы нажэрліся, а крыкнуць, як людзі, не можаце!

Мікрафон быў уключаны, і ўсё паляцела ў эфір. Філька падскочыла да вяшчальніка: "Заткніся, трубадур..." Той расшалопаў, што да чаго. І зноў стаў лаяць гэтых лупільшчыкаў:

— Эх, сволачы, піўко пацягваюць ужо, а я пякуся на сонцы, як сабака...

А яны адразу, як толькі прайшлі каля трыбуны, кінуліся ўроссып і з усіх бакоў абляпілі піўны ларок, як пчолы вулей. І ўся лаянка Алдухіна зноў паляцела ў эфір. Філька падскочыла, вырвала мікрафон: "Прэч, нягоднік!"

Алдухін збег з трыбуны і таксама накіраваўся да піўнога ларка. Параспіхаў "байцоў", кілбаснікаў, лупільшчыкаў і крыкнуў:

— Чатыры...

— Што, што? — не зразумела прадаўшчыца.

— Чатыры бакалы, кажу. Не, давай пяць. Ды хутка! — І закруціў галавою: — Ах, чорт, кнопка падвяла, не спрацавала. Цяпер Філька даканае. Ну, што ж, буду шукаць новую работу. Падамся ў дыктары на вакзал, а мо не адмовяць... А нос я падпудру, ні хо-хо...

на запраўку, дзе просты працоўны, які таксама глядзеў наш спектакль, падзякаваў за такую добрую, на яго погляд, пастаноўку. Ведаеце, было вельмі прыемна. Мабыць, ёсць сэнс у тым, што гледача трэба выхоўваць, а не прыстасоўваць да яго, іграючы не вельмі разумныя п'есы.

**— Якім быць спектаклю: разумным ці не вельмі, смешным або трагічным, масавым, або элітарным, залежыць ад рэжысёра, ён "вядзе" за сабой акцёраў. Ці пашчасціла вам са "сваім" рэжысёрам?**

— "Свой" — гэта, мабыць, не тое слова, лепш сказаць любімы рэжысёр. Такі ёсць — Мікалай Пінігін. Мы разам вучыліся, працавалі ў Купалаўскім тэатры, у тэатры "Альфарадыё" ў яго спектаклі "Пізанская башня". Ведаеце, з ім лёгка, таму, што Мікалай вельмі таленавіты, разумны чалавек. Добры вынік атрымліваецца, калі акцёры і рэжысёр разумеюць адзін аднаго. Я б хацела працаваць з ім яшчэ, але зараз Мікалай жыве ў Санкт-Пецярбургу, дзе працуе ў Вялікім драматычным тэатры. Вельмі падабаецца яго праграма на беларускім тэлебачанні "Лёс чалавека", якую час ад часу гляджу.

**— Алена, вакол вас адны акцёры: бацькі — акцёры, муж — акцёр і рэжысёр, сын спасцігае гэтую прафесію. Ці даводзіцца іграць у жыцці?**

— Думаю, непрыгожа іграць у жыцці. І на сцэне таксама трэба быць самой сабой.

**— Няўжо не было сітуацый, якія патрабавалі артыстычнасці?**

— Я стараюся гэтага не дапускаць, але нядаўна такая сітуацыя здарылася. Не вельмі хочацца пра яе расказваць, але мне давялося сыграць такую сцэну! Калі прыйшла дадому, падумала: "Божа мой, гэта ж лепшая роля ў маім жыцці. Як шкада, што ніхто не бачыў". (Смяецца.) Я была вымушана так зрабіць, каб дамагчыся свайго. Выдаткавала на гэта ўсе свае душэўныя сілы, але справа таго вымагала. Спадзяюся, такога больш не паўторыцца.

**Гутарыла Марыя ПРАЦКО**

*НА ЗДЫМКУ: актрыса А. СІДАРАВА.*

каў. "Інтрада" — гэта пяцёрка маладых віртуозаў, ганараваных лаўрамі розных выканальніцкіх конкурсаў, у тым ліку міжнародных. Як вядома, квінтэт працуе ў складзе Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі, удзельнічае ва ўсіх камерных фестывалях, што ладкуюцца пад мастацкім кіраўніцтвам Міхала Фінберга.

З лёгкай рукі маэстра на адну такую імпрэзу наша жыццё нядаўна пабагацела. У "музеі музаў" 29 студзеня распачаўся цыкл канцэртаў пад агульнай назвай "Музыка Верхняга Горада". Старонкі беларускай спадчыны, узоры сусветнай інструментальнай творчасці штомесяц будуць гучаць тут у выкананні камерных калектываў, добра знаёмых заўсёднікам фестываляў у Нясвіжы, Заслаўі, леташніх імпрэзаў у сталічным Купалавым музеі.

"Інтрада" — тэрмін з музычнага лексікону. Літаральна перакладаецца як "уступ". Азначае жанр, п'есу кшталту уверцюры. Вобразна кажучы, інтрада — гэта пачатак, адкрыццё, прадмова. Эфектнае імя для ансамбля. Ключавое слова для нізкі канцэртаў, што прадоўжацца ў доме па Музычным завулку, 5.

Выступленне "Інтрады" было першым. Першаму заззвычай нялёгка. Тым болей, калі трэба наладжваць кантакт з "цяжкай" аўдыторыяй, простымі школьнікамі-падлеткамі, якія, пэўна ж, і не ўсвядомілі каштоўнасць гэтага падарунка ў зімовы будзень. Хаця... Хто ведае? Прыгожыя хлопцы ў фраках, не нашмат старэйшыя за сваіх слухачоў; бліскучае, таленавітае граннe; яркая вобразная музыка; жывы, ненадакучлівы аповед каментатара праграмы, абаяльнай Вольгі Дадзіёмавай, — усё ўрэшце прываблівала ўвагу свавольнай публікі. Абуджала слухача, знаходзячы нішу ці то ў душы, ці то ў памяці нашчадкаў неабуджанага пакалення, амаль страчанага для свету нашай мастацкай культуры.

Магчыма, для кагосьці з іх, як і для тых, каму давядзецца патрапіць на чарговыя канцэрты новага цыкла, першая сустрэча з музыкай Верхняга Горада станецца пачаткам складанага працэсу ўсведамлення спрадвечных духоўных каштоўнасцяў, спасціжэння непаўторнасці беларускай гістарычнай ды культурнай спадчыны, самаідэнтыфікацыі ў такім стракатым і такім уніфікаваным сучасным свеце...

Адмысловая аранжыроўкі музыкі колішніх беларускіх сядзібаў, што доўгі час была адлучаная ад нашай культуры, як былі знарок адмежаваныя ад яе (ад нас!) і асобы саміх творцаў. Напалеон Орда, Міхал Клеафас Агінскі, Міхал Ельскі, Станіслаў Манюшка, ды інш., ды інш. Іх апявала асветніцкае слова, пра іх распавядала сама музыка.

Была цікавая рознасць тэмбравых адценняў, абертонаў, якімі расквечваўся высакародны бляск знаёмых партытур. Тут, сярод мураваных сцен, пад гонкім купалам, дзе ўсё так спрыяе сакавіта-звонкаму, пранізліваму гучанню медзі. І там, у Заслаўі, дзе толькі-толькі выступіла "Інтрада", дзе драўляная аздоба залы змякчае інструментальныя галасы, выяўляючы іх пяшчоту, цёплае дыханне...

Але фестываль у Заслаўі — свая гісторыя.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**
**Фота К. ДРОБАВА**

**ВЫСТАВЫ**

***Дзесяць дзён, з 9 па 19 студзеня ў Палацы мастацтваў экспанаваліся творы вядомага дызайнера і мастака Льва ТАЛБУЗІНА. Хоць ён і мае больш як трыццаць год творчага стажу, гэта ягоная першая персанальная выстава.***



# ДЗЕСЯЦЬ ДЗЁН НА ПАДАРОЖЖА





Раней ён браў удзел у выставах рэспубліканскага маштабу і ў выставах групавых. Летась Льву Іванавічу спoўнілася 60 год. Таму сябры і калегі ўспрынялі дадзеную імпрэзу як юбілейную. Чакалася, што Леў Талбузін зробіць выставу, так бы мовіць, справаздачнай. Гэта было б лагічна. За тры дзесяцігоддзі зроблена шмат. Гэта мноства дызайнерскіх распрацовак, якія рабіліся калісь пад канкрэтную функцыю і маюць адбітак канкрэтнага часу, але і сёння ўражваюць рацыянальнай прыгажосцю. Гэта медалі — хроніка культурніцкіх падзей першага дзесяцігоддзя адроджанай незалежнасці, партрэты выдатных людзей нашай Бацькаўшчыны. Талбузін браў удзел у распрацоўцы афіцыйнай сімволікі краіны пачатку 90-х. Сюды ж можна дадаць экспазіцыйны дызайн, інсталяцыі. Пэўным чынам у юбілейнай выставе магла бы быць адлюстравана і педагагічная дзейнасць Льва Іванавіча. З 1970 года ён выкладае ў Беларускай акадэміі мастацтваў, рыхтуе дызайнераў.

Аднак Леў Талбузін не той чалавек, якому ёсць час ладзіць справаздачы і падрахункі. Ён заўжды мае працу, якую трэба рабіць зараз; ідэі, якія чакаюць рэалізацыі. Заўжды ёсць пытанні, якія вымагаюць увагі сёння.

З гэтай прычыны Леў Іванавіч пайшоў іншым шляхам. Экспазіцыя ягонай выставы — гэта не позірк у мінулае, хоць тым мінулым варта ганарыцца, гэта — праекцыя ў будучыню. Я ўспрыняў гэтую выставу як эстэтычную дэкларацыю, візуалізацыю думак пра дызайн і мастацтва, пра форму і змест.

Экспазіцыя складаецца з зусім новых твораў. Публіка іх яшчэ не бачыла. Большасць іх з'явіліся на працягу мінулага года. Выключэнне складае, хіба што, геаметрычная аздоба станцыі метро "Плошча Якуба Коласа". Але па-за звыклым прасторавым кантэкстам, у якім іх штодня бачаць пасажыры метро, яны ўспрымаюцца як рэчы "выставачныя" абсалютна самадастатковыя.

На першы погляд, большасць твораў экспазіцыі — чыстая геаметрыя. Адзін з раздзелаў выставы так і называецца "Вялікі ўрок геаметрыі". Але насамрэч гэта не геаметрыя, а філасофія. Я назваў бы яе "філасофіяй чыстай формы". Леў Талбузін лічыць (і, дарэчы, лічыць слушна), што зыходных, формаўтваральных элементаў у пластычным мастацтве, увогуле ў матэрыяльнай культуры няшмат. Іх і не можа быць шмат.

Сем нот у музыцы, сем (а хто лічыць, што ці то тры, ці то пяць) элементаў колеравага спектру, прыблізна столькі ж пазіцый у балеце, якая заўгодна літаратуры мае грунтам недзе тры дзесяткі літар алфавіту.

А ўвесь прадметны свет мае ў аснове некалькі геаметрычных фігур. Гэтая ідэя і ўвасобленая ў экспазіцыі. Парадаксальным чынам дапаўняюць "вялікую геаметрыю" металічныя рэчы з калекцыі Льва Іванавіча. Дызайнер мае вялікі збор усялякага жалеза. Штосьці мае прамысловае паходжанне, штосьці выйшла з вясковай кузні. Для дызайнера гэтыя рэчы — жывыя, са сваім лёсам і характарам.

Аднačасова з выставай Льва Талбузіна ў Палацы мастацтваў працавала вялікая мастацкая выстава. Рэспубліканская. Яе невыразная экспазіцыя, няўцямныя творы рэзка кантраставалі з дынамічнай, шляхетнай, эстэтычна акрэсленай выставай дызайнера. На вялікай рэспубліканскай выставе глядач нібыта трапляў у мінулае, адкручваў гадзіннік на чвэрць века назад — на выставе дызайнера мог адчуць сябе ў магчымым будучым. Такое вось падарожжа ў часе...

Пры гэтым творы Льва Талбузіна добра адлюстроўваюць і сённяшні дзень нашага дызайну і творчы патэнцыял прафесіі.

Адзінага шкада, што выстава доўжылася ўсяго дзесяць дзён.

**П. В.**

**ІМПРЭЗЫ**

***Праект Арыны ВЯЧОРКІ "Легенды Вялікага Княства" пры падтрымцы арганізацыі БМАgroup (Беларуская музычная альтэрнатыва) набывае новае дыханне. У яго межах ізноў ладкуецца шэраг канцэртаў самых таленавітых і знакамітых беларускіх музыкантаў.***

# ЛЕГЕНДЫ НАШАЙ МУЗЫКІ

Штомесяц у сталічным ДК ветэранаў аматары старажытнага мастацтва атрымліваюць магчымасць не толькі паслухаць сярэднявечную музыку, але і пагутарыць са сваімі ўлюбёнымі выканаўцамі, а заадно — абмеркаваць праблемы апрацоўкі і стылізацыі гістарычных мелодый і спосабаў іх выканання.

Адзін з такіх канцэртаў прайшоў на пачатку студзеня. Гэта было сумеснае выступленне капэлы Алеся Лася і гурта "Guda". Выконваліся канты XVI—XVIII стст., а таксама польскія і французскія абрадавыя песні ды танцы. Увогуле, імпрэза прысвячалася беларускаму святу Каляды, таму разам з гуртом "Guda" удзельнікі капэлы выканалі некалькі традыцыйных калядак, з якімі калісьці сустракалі Каляду нашы продкі.

Кіраўніка капэлы Алеся Ася называюць нават адзіным на Беларусі майстрам аўтэнтычнай ігры на скрыпцы. Ён валодае традыцыйнымі тэхнікай і манерай, запазычанымі ў вясковых музыкаў. Ён таксама займаецца адраджэннем батлейкі. Пятнаццаць гадоў таму Алесь Лось стварыў капэлу, у склад якой увайшлі Тодар Кашкурэвіч — майстра народных музычных інструментаў, Юзаф Міхайлоўскі — акардэаніст-віртуоз, знаны сваім шматгадовым чынам у гурце "Ліцвіны", ды Вольга Емяльянчык — шматгранная вакалістка, якая падрыхтавала некалькі гуртоў са спецыялізацыяй у аўтэнтычным фальклоры.

Яны амаль што не канцэртуюць, бо сцэнічны "фармат" не зусім прымальны для гэтых музыкаў. У асноўным удзельнікі гурта граюць ва ўмовах натуральнай акустыкі на прыродзе або ў вялікіх памяшканнях, напрыклад, палацах. Капэла ў няспынным пошуку новых ідэй і тэм. У хуткім часе плануецца выдаць шэраг CD, рэканструяваць некаторыя старажытныя музычныя інструменты.

**— Музыка, якую мы выконваем, — гэта наша гісторыя, нашы вытокі, гэта тое, без чаго мы не можам сябе ўявіць. З другога боку, гэта наш стыль жыцця. Нам хочацца, каб людзі цікавіліся сваімі каранямі, сваёй гісторыяй і праўдай, якая за ўсім гэтым стаіць. Таму апошнім часам мы стараемся больш выступаць і сустракацца з людзьмі, якія сапраўды цікавяцца нашай музыкай, — кажа Алесь Лось.**

29 студзеня адбыўся яшчэ адзін канцэрт з праекта "Легенды Вялікага Княства". Гэта быў творчы вечар Алеся Журы і гурта "Artes Liberalis". Гурт існуе ўжо больш за 5 гадоў. Яго склад часцяком змяняўся, з заснавальнікаў застаўся толькі Алесь Жура. Цяпер гурт складаецца з пяці чалавек: музыканты — Мацвей Сабураў, Аляксей Пыжык, Ганна Харчанка і салісты-спевакі Алесь Жура ды Іна Перасецкая.

На пачатку канцэрта яны выканалі беларускія фальклорныя песні, а потым пад ірландскія матывы ўдзельнікі клуба "Рыцары ВКЛ" прадэманстравалі сапраўдны ірландскі танец, паўдзельнічаць у якім прапанавалі ўсім прысутным.

**— "Artes Liberalis" перакладаецца як "свабодная мастацтва". Па-першае, мы хацелі прыдумаць назву на лацінскай мове, бо яна універсальная, прычым назва гурта мусіла адлюстроўваць тое, чым мы займаемся. Прапанаваў яе наш колішні гітарыст, нам вельмі спадабалася. З таго часу яна нам спадарожнічае, — гаворыць Іна Перасецкая.**

Зацікаўленасць гурта ірландскім фальклорам невыпадковая. У 1998 г. Алесь Жура ездзіў на фестываль дударскай музыкі ў Ірландыю, дзе прадстаўляў Беларусь. Менавіта пасля гэтага фестываля ён пачаў цікавіцца ірландскім фальклорам, збіраць сярэднявечныя песні ды танцы гэтай краіны.

Згаданыя канцэрты — толькі невялічкая частка праекта "Легенды Вялікага Княства". Яго арганізатар Арына Вячорка абяцае і далей запрашаць беларускіх выканаўцаў сярэднявечнай музыкі. Таму аматары нашай старажытнай спадчыны яшчэ не раз атрымаюць магчымасць сустрэцца са сваёй гісторыяй традыцыйнай культуры.

**Юлія ПАПОВА**

# БЫЦЬ ЖЫВАПІСЦАМ — БОСКІ ДАР



ВІТАЛЬ ЦВІРКА, бясспрэчна, выдатны чалавек. Але для мяне ён яшчэ і настаўнік. У пачатку 50-х мне давялося спасцігаць "азы" майстэрства ў гэтага цікавага чалавека. Урокі жывапісу ён даваў выключна на плэнеры, актыўна перадаючы нам, студэнтам, свае імпульсы адлюстравання красы беларускай прыроды.

**ЛЕАНІД ШЧАМЯЛЁЎ,**
**народны мастак Беларусі.**

МНЕ НЕ ДАВЯЛОСЯ быць вучнем Віталя Цвіркі. Але мы з ім добра, творча, сябравалі, нягледзячы на розны ўзрост. Гэта быў таленавіты і вельмі мужны чалавек. Я памятаю выпадак, які пацвярджае мае словы. У 57-м я скончыў у Піцеры акадэмію і прыехаў у Мінск. На той час Цвірка быў рэктарам тэатральна-мастацкага інстытута. Ён загадаў пафарбаваць кабінет рэктара ў сіні колер, а на вокны павесіць белыя "маркізы". Тады гэта быў вельмі смелы крок, аднак і рэзананс быў шырокі.

Віталь Канстанцінавіч — таленавіты мастак з найтанчэйшым густам. Раней, калі нашы дэлегацыі выязджалі за мяжу, заўсёды бралі з сабой для падарункаў толькі карціны Цвіркі. Колькі ж іх раскідана па ўсім свеце?

**УЛАДЗІМІР СТАЛЬМАШОНАК,**
**жывапісец**

**ЦВІРКА БЫЎ надзвычай лёгкім і прыемным у размовах чалавекам. На сваім 80-годдзі, апошнім дні нараджэння, ён, ужо хворы чалавек, амаль што прыкаваны да крэсла, жартаваў, працягваючы ствараць вакол сябе атмасферу лёгкасці і свабоды. А тое, што ён зрабіў у мастацтве, увойдзе ў гісторыю і набудзе сваё ганаровае месца ў беларускай культуры.**

**ВАСІЛЬ ШАРАНГОВІЧ,**
**народны мастак Беларусі,**
**дырэктар Музея сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску**

СЯРОД ЛЕПШЫХ МАСТАКОЎ Беларусі першым называюць Віталя Цвірку. Калі ён з'явіўся ў Мінску пасля заканчэння Сурыкаўскага інстытута, гэта было падобна да свежага струменьчыка, свята, якое зрабіла добры ўплыў на беларускае мастацтва. І я мяркую, што ўсе ягоныя вучні, шмат хто з якіх ужо сталі майстрамі, могуць пацвердзіць гэтыя словы.

**МАЙ ДАНЦЫГ,**
**народны мастак Беларусі, прафесар**

МНЕ ПАДАЕЦЦА, што Віталь Канстанцінавіч Цвірка менавіта той мастак, творчасць якога не падуладная кан'юнктурным уплывам і ўздеянню часу. Сёння ягоныя работы ўспрымаюцца вельмі свежа і сучасна, нібыта ён не працаваў у той сістэме. Цвірка быў на дзіва працалюбівым чалавекам, яго познія творы настолькі шчырыя і непасрэдныя, што ствараецца ўражанне, быццам іх аўтар — чалавек гадоў 30-40, не больш.

**УЛАДЗІМІР КОЖУХ,**
**жывапісец**

***УЗНЁСЛЫХ СЛОЎ** пра творчасць Віталя Цвіркі можа быць вельмі шмат. Гэтую асобу зразумець было нялёгка і таму яшчэ, як і кожны талент, ён бачыў далей, чым многія з нас, бачыў перспектыву як творчую, так і перспектыву палітычнага жыцця. Цвірка здзейсніў сапраўды вялікі ўчынак, калі ён, здавалася б, не менш таленавіты за іншых, адмовіўся ад сюжэтна-тэматычнай кар-ціны і пачаў пісаць краявіды. Ён разумеў, што ў той час "власть придержащие" больш спрыялі тэматычнаму жывапісу і што ўлада адначасова дыктавала што і аб чым пісаць, і як разумець гісторыю і сучаснасць. Гэты ўчынак застаўся нібы і не заўважаным, але ў савецкі перыяд трэба было мець вялікую мужнасць, каб зрабіць такое. Перайшоўшы на краявіды, Цвірка стаў, бадай, другім мастаком пасля Бялыніцкага-Бірулі, хто так узнёсла, на такім высокім узроўні апяваў сваю Радзіму. Ягоныя краявіды — гэта не проста лясы і рэкі, гэта, магчыма, камерны куточак прыроды альбо эпічны твор з шырокім ахопам усяго, гэта ёсць сапраўднае Мастацтва. Віталь Канстанцінавіч прыгажосць бачыў там, дзе іншы, сярэдняга ўзроўню мастак, не знаходзіў быццам бы і матыву. Нейкі кавалачак плоту, кветкі, а далей — ужо з'яўляецца вежа, неўпрыкмет, але вельмі натуральна ствараюцца маляўнічыя краявіды... і ўсё гэта перарастала ў своеасаблівую таямнічую мелодыю. Хочацца адзначыць, што меладычнасцю была прасякнута ўся яго творчасць. Асабліва гэта тычыцца ягоных акварэляў. Здаецца, што гэта не папера, а быццам нейкая музычная душа, па якой пэндзаль разносіць прыгожыя гукі. Я — мастак-графік, але бывае, што прыходзіцца звяртацца да паперы і акварэлі. Адразу згадваецца Віталь Канстанцінавіч, і тады думаеш: " Гэта ж трэба, колькі пакутаў над лістом паперы, а ў яго тры-чатыры ўзмахі — і твор ужо гатовы, вось гэта майстар!"*

**У СВОЙ ЧАС ён быў нашым суседам па майстэрні. Мы з Зояй Літвінавай часта згадваем, што, працуючы побач, ён нярэдка завітваў і да нас, заўсёды такі вясёлы, жыццярадасны, штосьці напяваў і калі бачыў, як мы працуем, жартоўна казаў: "Цяжкая гэтая наша справа". Хоць здавалася, што яму ўсё лёгка даецца. У размовах з ім мы атрымлівалі вялікую асалоду. Нягледзячы на тое, што мы былі нашмат маладзейшыя за яго і ў той час толькі скончылі інстытут, ён ужо, будучы прызнаным майстрам, ставіўся да нас не як да вучняў, а як да паплечнікаў, мастакоў.**

**СВЯТЛАНА КАТКОВА,**
**жывапісец**

У СВОЙ ЧАС пачуў ад Цвіркі, што многія казалі, быццам ён піша не ў рэалістычнай манеры. Рэалістамі называюць капііставў натуры, тых, хто слепа ідзе за ёй, прытым абсалютна не бачыць яе і не адчувае. Наколькі я ведаю, Цвірка яшчэ ад Герасімава атрымаў цудоўную школу бачання, калі чалавек мог бачыць абагульнена, свабодна і шырока, панарамна, гэта значыць расплюшчанымі вачамі. Ён не заўважаў дробных дэталяў, якія ствараюць рэч, ён бачыў саму рэч. Нярэдка ён ішоў далей, абагульняючы не толькі рэчы, але і погляд на з'яву. Гэтым вылучаюцца яго лепшыя работы з Калужскай царквой, пейзажы з поўняй і рабінай, азёрныя творы — там панарамны ахоп падзей, там бачна, што чалавек бачыў свет, а не захапляўся дэталямі. Віталю Канстанцінавічу Госпадзь даў магчымасць шырока глядзець на свет і выявіць свае ўражанні сродкамі жывапісу. З іншага боку, я бы не сказаў, што ён быў рэаліст ці фармаліст. Мне здаецца, што ў рэалізме ён быў фармаліст, але фармальна ён быў вельмі рэальны. А ў спалучэнні гэта вельмі каштоўная і "смачная" ўласцівасць, калі і душа атрымлівае задавальненне і розум працуе.

Цвірка заўсёды шукаў у сваіх творах эксперымент бачання. Ён проста цудоўны прыклад для многіх.

**МІКАЛАЙ БУШЧЫК,**
**жывапісец**





***Віталь Цвірка — вельмі значная постаць у мастацтве. Гэта той падмурак, на якім трымаецца наша культура. Некаторыя мастакі будуць ад яго адштурхоўвацца. Можа, знойдзецца чалавек, які пойдзе далей і зробіць болей, але Цвірка назаўсёды застанецца Асновай.***

***Што датычыцца Цвіркі як чалавека, то тут можна згадваць безліч прыемнага. І не дарма Віталь Канстанцінавіч быў прафесарам, сапраўдным майстрам як у творчасці, так і ў жыцці. Ён мог дазволіць сабе пажартаваць, а часам нават і іронію — і гэта заўсёды было да месца, так бы мовіць, трапляла " ў дзесятку". Ён часта падтрымліваў другіх мастакоў, хоць той-сёй і не варты быў. Ды Віталь Канстанцінавіч быў чалавекам з добрай душой. Хацеў, каб усім заўсёды было добра.***

**УЛАДЗІМІР БАСАЛЫГА,**
**старшыня Беларускага саюза мастакоў**

КОЖНЫ, ХТО БЫЎ З ІМ ПОБАЧ, адчуваў нейкае хваляванне, што сведчыла аб тым, што маеш справу з вялікім чалавекам, вялікім мастаком. На мой погляд, сталыя гады — лепшыя гады творчасці Цвіркі. Трэба сказаць, што так бывае не ва ўсіх, нават у славутых і вядомых.

У апошнія гады ён пачаў працаваць яшчэ вальней, яшчэ віртуозней, нібы прадчуваў, што ў яго мала часу.

Яшчэ ніхто не спрабаваў даследаваць такі бок ягонай творчасці, як акварэль. Гэта адзін з тых мастакоў, які па-сапраўднаму адчуваў саму прыроду акварэлі, ведаючы, на што здольная гэта тэхніка.

**СЯРГЕЙ ПЕТЭРСАН, прафесар,**
**кандыдат мастацтвазнаўства**

**Падрыхтавала**
**НАТАЛЛЯ ФЕДАСЕЕНКА**

---

**ЛІМ-ЧАСАПІС**

## ТУТ — ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ

Гудзевічы. На мове нашых суседзяў-літоўцаў гэта слова азначае — "там, дзе жывуць беларусы". Можна і гэтак — Беларусавічы.

Гудзевічы — вёска, знакамітая на ўсю Беларусь. Бо гэта тут жыве Алесь Мікалаевіч Белакоз — настаўнік, стваральнік Гудзеўскага музея, шчыры працаўнік, які заўсёды слугаваў Беларусі. Гэта праз ягоную працу і праславіліся Гудзевічы на ўвесь край.

Вытокі беларускасці Алеся Мікалаевіча — ад ягонай сястры, светлай памяці Веры Мікалаеўны Белакоз. Навучэнка Віленскай беларускай гімназіі, беларуская настаўніца, патрыётка, што, рызыкуючы жыццём, вучыла вясковых дзетак роднай мове, літаратуры ў часы нямецкай акупацыі. Навучанне было забаронена, бо карысталіся савецкімі падручнікамі: іншых не было. Забаронена пад страхам смерці. Алесь Мікалаевіч згадвае выпадак, калі ў часе заняткаў паўз тую хату, дзе месцілася школка, на возе ехалі немцы. І раптам спыніліся якраз насупраць. Колькі страху давялося перажыць настаўніцы! А ў іх — проста непаладка выйшла: кабыла рассупонілася. Наладзілі і паехалі сваёй дарогай. Не столькі за сябе, колькі з-за гэтай малечы, за чыё жыццё яна адказвала, баялася Вера Мікалаеўна. Калі небяспека мінула, яна са скрухай папракнула вучняў: "Немцы хочуць, каб вы раслі цёмнымі, неадукаванымі. І той, хто не стараецца, не рыхтуе хатнія заданні, дапамагае ім. Вось і сёння вы не вывучылі ўрыўкі з паэмы Янкі Купалы "Курган"...

Алесь Мікалаевіч на наступныя заняткі вывучыў усю паэму на памяць. Гэта быў сапраўдны ўрок беларускасці, які запомніўся на ўсё жыццё.

Паказаць усім, які багаты наш Край, колькі талентаў нарадзіла гэта зямля, які сэнс хаваюць у сабе спрадвечныя назвы беларускай зямлі — усё гэта імкнуўся рабіць Алесь Мікалаевіч. Таму і стварыў музей. Дакладней, цэлы комплекс музеяў. Багаццю літаратурна-краязнаўчай экспазіцыі пазайздросцяць многія.

Вучні — юныя памочнікі Алеся Мікалаевіча. Што толькі ні рабілі яны за апошнія гады! І перапіску з многімі вядомымі пісьменнікамі наладзілі, і пошукам экспанатаў, і літаратурнай творчасцю (нават свой друкаваны на машынцы часопіс выдавалі), і навукова-даследчыцкай дзейнасцю займаліся. Менавіта гудзевіцкім школьнікам належыць права першаадкрывальнікаў гэткай цікавай асобы — нашаніўца М. Арла. Дачка Алеся Мікалаевіча Марына, якая яшчэ ў школе цікавілася гэтым паэтам, мэтай сваёй дыпломнай працы мела даследаванне творчасці М. Арла. Абароненая ў 1981 годзе, гэта дыпломная была першай навуковай працай пра паэта.

Імя Ларысы Геніюш я таксама ўпершыню пачула ад Марыны Белакоз. Яна чытала верш паэткі "Гудзевічы". Памятаю, мне нават зайздросна было, што пра нашы гэтак любыя мне вёскі на Карэліччыне такіх вершаў няма.

У музеі лёну і ткацтва сабраны каштоўныя экспанаты — падвойныя дываны, самыя старадаўнія з якіх вытканы напрыканцы XIX стагоддзя. Ёсць і дыван, падараваны музею Ларысай Геніюш, вытканы яе свякрухай. А ці не цуд — ільняныя ручнікі?!

Вера, упэўненасць Алеся Мікалаевіча ў гаючыя сілы таго, што дае зямля, імкненне пераадолець хваробы-знямогі і навучыць людзей гэтаму спрыялі стварэнню музея народнай медыцыны. Хто не ведае пра славутую крамнёўку — ваду, настоеную на крэмні. Колькі цікавых, амаль неверагодных гісторый расказвае Алесь Мікалаевіч пра яе гаючую сілу. А мне здаецца, лечыць менавіта тая крамнёўка, да якой дакрануліся ягоныя рукі...

І ці ж не цуд сярод гэтага мноства музеяў — хатка?! Этнаграфічны музей. Вось як хораша жылі беларусы, у якіх ладзе і згодзе! А сем'і якія былі багатыя! А дзеткі — якія чаканыя! А як ён, гаспадар, клапаціўся пра сваю гаспадыню! Усе хатнія прылады сваімі рукамі рабіў. З любоўю і пяшчотай. І жылі тут людзі не горай, як ва ўсім свеце ў тыя даўнія часы. Куды ж мы зайшлі зараз ад таго свету?..

Згадваецца выпадак. Было тое больш дваццаці гадоў таму. Вярталася з вакацый на вучобу ў Гародню. Суседам у аўтобусе быў хлопец, студэнт Навагрудскага сельскагаспадарчага тэхнікума. Ён прапанаваў: "Давайце будзем гаварыць на нашай роднай беларускай мове". Мне, студэнтцы беларускага аддзялення філфака, пачуць такое было вельмі нечакана і прыемна. Безумоўна, не магла не спытаць: "Адкуль у вас гэткая любоў да беларускага?" І ў адказ пачула: "Мой настаўнік — Алесь Мікалаевіч Белакоз". З якой павагай, гонарам і любоўю тое было сказана!..

Найпершы клопат Алеся Мікалаевіча і сёння — музей. З радасцю сустракаюць тут наведвальнікаў. Едуць у Гудзевічы адусюль. Бо шмат даюць і розуму і сэрцу тыя цікавыя экскурсіі, якія праводзіць Алесь Мікалаевіч. Таму — едзьце ў Гудзевічы. Там — жыве Беларусь!

**Ала ПЕТРУШКЕВІЧ**

ЛІМ-ЧАСАПІС

## ВЫЙШАЎ «ВОЖЫК» № 1!

**У свет выйшаў часопіс "Вожык" № 1 за 2003 год! Славуты часопіс сатыры і гумару, галоўным рэдактарам якога з'яўляецца паэт Пісьмянкоў. "Вожык" памяняў сваё аблічча, пачынаючы з новых рубрык і новых цікавых гумарыстычна-сатырычных твораў і заканчваючы мастацкім афармленнем.**

**Новыя рубрыкі часопіса вядуць знаўцы сваёй справы: "Энцыклапедыю "Вожыка" — Янка Саламевіч, "У Навума" — Навум Гальпяровіч, "Наш Інтэрнет" — Уладысь Цвяткоў, "Глядзельная зала" — Рыгор Яўсееў, "Святы" — Юлія Зарэцкая.**

**У нумары ёсць што пачытаць і ёсць на што паглядзець. Гэта падборка сатырычных мініяцюр Янкі Брыля "Абы на здароўе", вершы Міколы Чарняўскага, якому споўнілася 60 гадоў, інтэрв'ю Навума Гальпяровіча са знакамітым драматургам Якавам Касцюкоўскім, гумарэскі Уладыся Цвяткова "Арыгінал", Штэфана Бітмана "Рацыяналізатарская прапанова", Юрася Палясоўшчыка "Куніца-суддзя", афарызмы Георгія Марчука, вершы Ніла Гілевіча, Леаніда Дранько-Майсюка, Уладзіміра Правасуда, Казіміра Камейшы, Анатоля Майсеенкі. Аматары фельетонаў і публіцыстыкі змогуць пачытаць "Іголкатэрапію", "Навіны з МУС: матай на вус...", а таксама творы "Салам па ранах" Дунькі Шып, "Начальнічкі і чайнічкі" Сержука Жужжука. У нумары прадстаўлены і пастаянныя рубрыкі "Вожыку пішуць...", "Як стала вядома...", "Хоць пісьмо і не надрукавана", старонка для дзяцей "Калючык", "Анекдоты ад Ахрэма" пад рэдакцыяй Паўла Міська, "Карэктарскія агрэхі" Максіма Гарэзы.**

**А мастакі-карыкатурысты Іван Бокій, Аляксандр Каршакевіч, Алег Папоў, Аркадзь Гурскі, Максім Малышаў, Павел Шычко, Андрэй Слуцкі, Уладзімір Чуглазаў, Аляксандр Шміт, Андрэй Скрыннік, Вікенцій Пузанкевіч, Віталь Кушнярэвіч прапануюць чытачам свае смешныя малюнкі.**

**Антон ВЯДЗЕНІЧ**

# ВАНДРОЎНЫЯ БЫЛІЦЫ

Ягор КОНЕЎ

### ШАЛЁНАЯ ЗГРАЯ

У якую вёску на Беларусі не зойдзеш, абавязкова натрапіш там на нейкую незвычайную гісторыю. У гэтым я чарговы раз пераканаўся, калі ў чэрвені 1999-га з сябрамі, такімі ж заўзятымі турыстамі-воднікамі, плыў па Нёмане на гумавым плыце.

Спякотным поўднем мы спыніліся ў Гневічах — сяле з пантонным мастом, які перагароджваў раку. Пакуль хлопцы перацягвалі на руках плыт цераз мост, нашым дзяўчатам закарцела набыць у якім-небудзь двары свежага малака. Узялі грошы ды сышлі.

Чакалі іх паўгадзіны, а потым, пакінуўшы таварышаў вартаваць плыт, мы з Алесем выправіліся на пошукі. Праз сяло цягнулася доўгая вуліца. Я скіраваўся направа, Алесь — *налева*. Зазіраючы ў кожны двор, я прайшоў крокаў трыста. Нашых спадарожніц не заўважыў, затое ўбачыў старую жанчыну, якая цягнула ад калодзежа вёдры з вадой. Ішла кабета марудна — пранясе крокаў дзесяць, пастаіць, адпачне.

— Вам дапамагчы? — рашуча ўзяў я вёдры.

— Ды мне зусім недалёка, — далікатна запярэчыла бабуля.

"Недалёка" аказалася на ўскрайку сяла. Пакуль данёс вёдры да хаты, ледзь рукі не адваліліся. Дый бабуля задыхалася — крок у мяне шпаркі.

— Адразу відаць, гарадскі хлопец, не звык цяжкое насіць, — апусцілася старая на лавачку ля веснічак. — Пасядзі, адпачні.

Я паставіў вёдры ля ганку ды прысеў на хвілінку.

— Цяжка жыць адной, — сказала старая. — Памёр мой стары. Дачка з горада рэдка прыязджае, у яе свая сям'я. А вы самі адкуль?

І пачуўшы, што з Мінска, пацікавілася:

— Цяжка жыць у горадзе? Кажуць, там свежага паветра не засталося.

Я ў той час перажываў чарговую душэўную дэпрэсію з-за няўдалага асабістага жыцця, дык пераканаўча заявіў:

— Паўсюль жыццё нялёгкае. І наперадзе, думаю, цяжкія часы.

— Ой, не кажы, — запярэчыла бабуля. — Мы на вёсцы ведаем, цяжкіх часоў не будзе. Знаку няма.

— Якога яшчэ знаку? — здзівіўся я.

— Шалёнай зграі ў лесе няма, — сказала бабуля.

Няўжо нешта ўзгадала з часоў дзяцінства?

— Дык што за знак? — перапытаў я.

Пэўна, з пачуцця своеасаблівага вясковага этыкету, мая суразмоўніца спярша сціпла адказала:

— Ды я нічога не памятаю, зусім старая.

Колькі мне даводзілася назіраць такое — спярша наракаюць на дрэнную памяць, памаўчаць дзеля прыліку пару хвілін, ды як распачнуць — не спыніш!

Так і мая суразмоўніца пасля непрацяглага маўчання загаварыла:

— Раней жа мы ўсе палякамі былі. А потым Саветы запісалі нас у беларусаў, каб, значыць, *зрабіць* падобнымі да рускіх...

І, як шмат хто з вясковых бабулек, якім няма каму выгаварыцца пра перажытае, кабета ўзгадала час напярэдадні прыходу "другіх немцаў" улетку 1941-га ("першыя немцы" прыходзілі ўвосень 1915-га).

Недзе ў 1940-м у навакольных лясах з'явіліся шалёныя сабакі. Панабеглі невядома адкуль і так распладзіліся, што стала страшна хадзіць не тое што ў лес, а нават прасёлкавымі дарогамі.

Здаралася, нечакана з гушчару выбягалі дзесяткі два сабак з апушчанымі хвастамі — не брахалі, моўчкі наскоквалі на людзей. Калі ў іх стралялі й забівалі, паміралі без віскату.

Уначы яны набліжаліся да вясковых ускраін, нават сноўдаліся па вуліцах. Пра іх прысутнасць гаспадары здагадваліся па тым, як спалохана вішчалі ды зашываліся ў будкі свойскія сабакі.

Не баялася шалёная зграя паказвацца і на шашы, якая вяла ў Мінск.

З Мінска прыслалі паляўнічых. Тыя прачасалі лес, некалькі драпежнікаў застрэлілі. Але большасць зграі паўцякала ў суседнюю вобласць. А калі паляўнічая каманда з'ехала, зграя вярнулася і накінулася на статак кароў у полі. Пастух выратаваўся, узлезшы на дрэва.

Цяжкія прадчуванні прыгняталі вяскоўцаў. Здагадваліся, што сабакі сноўдаюць у наваколлі не проста так, чакаюць багатай спажывы.

І спажыва ім з'явілася.

У той чэрвеньскі нядзельны ранак, калі вяскоўцы ішлі ў царкву на ютрань, з-за аблокаў вынырнуў нямецкі самалёт і стаў расстрэльваць натоўп з кулямёта. Нябожчыкаў не паспелі не тое, што пахаваць, а нават прыбраць з вуліцы — з лесу наскочыла шалёная зграя.

Людзі паразбегліся хто куды. Сабакі накінуліся на мёртвых.

Бабуля, ёй тады споўнілася чатырнаццаць, здалёк бачыла, як сабакі ўскідвалі акрываўленыя пысы да бязвоблачнага неба — а там, у блакіце, з ровам праляталі на ўсход сталёвымі хвалямі самалёты.

Назаўтра праз вёску ехалі шэра-зялёныя бронемашыны і грузавікі з пяхотай. Нямецкія салдаты заходзілі ў двары, прасілі чаго-небудзь паесці, папіць малака, і папярэджвалі вяскоўцаў ламанай рускай мовай:

— Услед за намі ідуць тылавыя часткі. Сцеражыцеся салдат, у якіх на пятліцах будуць літары ў выглядзе маланак.

Праз тыдзень салдаты з гатычнымі "СС"-маланкамі на пятліцах гналі па гасцінцы міма вёскі вялікую, тысяч пяць, калону палонных.

З гасцінца чуліся аўтаматныя чэргі — канваіры дабівалі *аслабелых чырвонаармейцаў*. Узбочыны былі ўсеяны трупамі расстраляных.

А на змярканні з лесу наляцела шалёная зграя, сабакі накінуліся на мёртвых людзей. І аказалася, на гасцінцы ляжалі не толькі забітыя, але і цяжкапараненыя, не дабітыя канваірамі. Іх крыкі даносіліся да вёскі.

— А я ж усё чула, — паднесла далоні да шчокаў старая. — Думала, аглухну. Не аглухла, толькі плямы па целе пайшлі. Доктарка гаварыла, экзема. Да замужжа не магла ад той экземы вылечыцца...

Праз месяц у суседнім раёне немцы ўтварылі лагер — укапалі слупы, нацягнулі дрот і загналі за яго тысячы людзей. З тае пары і да вяртання "другіх Саветаў" шалё-






***"Літаратурны квартал" — гэта не толькі назва суполкі маладых літаратараў, якая працуе пры штотыднёвіку "ЛіМ, але і рубрыка, у якой друкуюцца творы сяброў гэтай суполкі. Сёння знаёмім вас з новымі творамі маладых літаратараў.***

Алена БАГАМОЛАВА

### ТРЫЯЛЕТ

*Я люблю ўзнімацца ў нябёсы,*
*Каб глядзець скрозь зоркі на Вас,*
*З белым месяцам бавіць час.*
*Я люблю ўзнімацца ў нябёсы.*
*У нябёсах пра шчасныя лёсы*
*Лёгка марыцца кожны раз.*
*Я люблю ўзнімацца ў нябёсы*
*І глядзець скрозь зоркі на Вас.*

•

*Там, на вяршыні,*
*Куды імкнуцца людзі,*
*Куды ляцяць мары,*
*Ужо даўно жывуць птушкі,*
*Ужо даўно плывуць хмары...*

•

*Раўнюткая лінія гарызонту:*
*Толькі неба і мора,*
*Толькі зоркі і рыбіны,*
*Толькі Месяц і Млечны Шлях.*
*І дарога Месяца ў хвалях...*
*Я блукаю ў гэтых далях,*
*Як самотны і стомлены птах...*

Вікторыя СОТНІКАВА

### ДАДОМУ

*Дамоў вяртацца — лепшы падарунак,*
*Куды б ні ездзіў, дзе б ты ні бываў.*
*Ты выбераш заўжды адзін кірунак,*
*Калі стаміўся, ці самотны стаў.*
*І самым смачным будзе той сняданак,*
*Што маці стане ў печы гатаваць,*
*І самым найярчэйшым будзе ранак,*
*Які ты будзеш дома сустракаць.*

Віка ТРЭНАС

### СПЯКОТАЙ АПАЛЕНАЯ СКУРА

*блакітнавокія вершы з залатымі вейкамі*
*робіцца ўва мне высакагорнымі рэкамі*
*істоты з апаленай скурай*
*у небе цягнуцца шнурам*
*і кожны дотык паветра гарачы*
*працінае цела чырвоным плачам*
*сонца сляпога ахвяры*
*на зямлі барвовеюць шнары*
*схіляюцца дрэвы ў самоце*
*малячыся спякоце*

Васіль ВОСТРЫ

•

*Вочы ў цемры. Свецяцца ледзь яны.*
*А ў мяне коціцца пот ледзяны.*
*Я запаліў святло,*
*І ўсё як рукою зняло:*
*Гэта быў кот, а не кат,*
*Гэта быў зрок, а не змрок.*

•

*Абышоў тры валы я —*
*Трывалыя.*
*Удыхнуўшы траву,*
*Раву —*
*З-за яе асалоды.*
*Ад прыроды во дар! —*
*Водар.*

Павел КАСПЯРОВІЧ

•

*Мокне лісце пад цяжкім дажджом,*
*Як апошняе слізкае смецце,*
*Некранутае злом і дабром,*
*А ніводнай падзеяй у Сусвеце,*

*Ні вайной, ні крывёй, ні слязой,*
*Ні пакрыўджаным нечым сумленнем,*

ныя сабакі гуртаваліся ў лясах вакол лагера — з-за дрота часта вывозілі "спажытак" для іх.

Спярша нямецкае камандаванне было задаволена такім суседствам — і праблема з пахаваннем вырашалася, і ўцякаць з лагера ніхто не адважваўся: у лесе ад пачвар не схаваешся. Аднак пладзіліся шалёныя сабакі шпарка. І немцы занепакоіліся — усё часцей гінулі ў драпежных іклах вартавыя са знешняга перыметра аховы.

Немцы высякалі лясныя абшары і ладзілі адстрэлы. Але сабак не меншала.

Адстрэльвалі шалёную зграю і партызаны, якія з'явіліся ў наваколлі ўвосень 42-га. І драпежнікі палявалі на партызан, як на немцаў і на вяскоўцаў — як на ўсіх людзей. Ваяваць жа з сабакамі было куды складаней, чым з акупантамі — фашыстаў хаця б куля палохала, гэтыя ж не баяліся нічога.

Такой і запомнілася бабулі вайна — смерць мела аблічча шэрых маўклівых сабак з апушчанымі хвастамі і жоўтымі вачыма.

Шалёныя сабакі так і не наеліся дасыта. У 44-м яны падаліся на захад, услед за фронтам, і пасля вайны не вярнуліся. Але памяць пра сябе пакінулі трывалую. І шмат хто са старых вяскоўцаў верыў — іх з'яўленне прадвесціць бяду. А пакуль шалёныя сабакі не снотудаюць па наваколлі, можна жыць спакойна, верыць у будучыню...

— Перажылі б вы, маладыя, тое, што мы перажылі, дык не скардзіліся б на жыццё, — не без дакору завяршыла расповед бабуля.

Я хацеў запярэчыць, што параўнанне сучаснасці з часамі Вялікай Айчыннай суцяшае слаба, што маладыя думаюць не пра тое, як цяжка жылося раней, а пра тое, як добра маглі б жыць цяпер, ды прамаўчаў. Бо заўважыў удалечыні Алеся і нашых спадарожніц, якія махалі мне рукамі, клікалі. Адна з дзяўчат трымала ў руках слоік з малаком.

— Дзякуй вам, мне пара, — развітаўся я з бабуляй.

— Дык не кажы, што цяпер кепска жыць, — паўтарыла яна, — шалёнай зграі няма...

Наганяючы Алеся з дзяўчатамі, якія неторапка скіраваліся да ракі, я разважаў пра пачутае.

Асаблівага містыцызму ў з'яўленні шалёнай зграі я не бачыў. Вядома, пасля таго, як у 1939 — 1940 гадах НКУС павысяляў у Сібір тысячы хутаран-заходнікаў, свойскім сабакам не было куды падацца — толькі ў лес. Тысячы сабак, якія раней харчаваліся з чалавечых рук, раптам убачылі, што гаспадары зніклі, а роднае жытло разбурана. Як тут не ашалець! Шмат сабак, нязвыклых паляваць у лесе, загінулі, але былі і такія, што выжылі, перамяшаліся з ваўкамі. Ад тых сабак і ўтварылася шалёная парода — моцныя, спрытныя, бязлітасныя мяшанцы. Ад такіх ваўкі ўцякалі, падцяўшы хвост. Не дзіва, што яны не баяліся людзей і помсцілі за здзек з бацькоў...

Калі наш плыт адчаліў, я пераказаў сябрам пачутае ад бабулі.

— Наколькі маляўнічы і жудасны сімвал нашай гісторыі! — усклікнуў Алесь. — Дзікае паляванне сабак на людзей!

— Але цяпер шалёнай зграі няма ў лесе, — прыналёг я на вясло.

— Наперадзе сапраўды лепшыя часы. Дык давай, вяслуй!..

### ЦЬМЯНЫ ДЗЯДЗІНЕЦ

Аднойчы ў жніўні 2001-га наша суполка атабарылася недалёка ад вёскі Друцк. Як звычайна, у першы вечар вандроўкі засядзеліся каля вогнішча, папіваючы гарбату і гарэлку, далёка за поўнач.

Нашы намёты стаялі на ўзлессі. На ўсход цягнулася поле, за якім раскінулася вёска. Пасярод поля чарнела невялікае ўзвышша, а з поўдня пралягаў канал — зарослы і забалочаны.

Мы гралі ў "кракадзіла" і "мафію", бавілі час у размовах і распавядалі анекдоты, пакуль туман не накрыў поле і канал, адно ўзвышша чарнела, пакуль не падпоўз да нас празрыстымі жмутамі туман.

— Дык, можа, шаноўнае спадарства, пойдзем спаць? — прапанаваў я таварышам, пацiраючы пальцамі павекі.

Раптам Алесь тыцнуў пальцам у бок поля:

— А што гэта, хто ведае?

На ўзвышшы, з хваляў туманнага мора, паўстаў старажытны горад — бервяныя сцены і адзіная шырокая вежа-брама. З-за сценаў узвышаліся царква з вострай макаўкай ды прысадзістыя княскі церам.

— Што гэта? — паўтарыў Алесь. — Міраж?.. А я думаў, міражы здараюцца толькі ў пустынях, у спякоту...

І раптам я зразумеў — дзівосным чынам туман аднавіў аблічча старадаўняга Друцка, буйнога горада нашага Сярэднявечча. Горада, які заняпаў з тае пары, калі шлях з Вільні на Маскву пралёг праз Талачын. А цяперашняя балотная канава была тады паўнаводнай ракой, па якой плылі віціны да Друці, да Бярозы-ракі, да Дняпра, да мора...

Незразумела, чаму тым ранкам старажытны Друцк нагадаў пра сябе тумановай выявай. Але менавіта нам пашчасціла яго ўбачыць.

Я напружваў зрок. А раптам туман пашчыльнее, акрэсліць, акрамя дзядзінца, абрысы пасадскіх хацінак, майстэрняў, гандлёвых радоў?..

Ды не пашчыльнеў туман, не акрэсліў.

Падзьмуў струмень цёплага паветра, шпарка набліжаўся світанак. І цьмяны дзядзінец растаў у тумане, расцёкся хвалямі ў полі.

Можа, думаў я, гэтаксама зямля захавае памяць і пра нашу эпоху? І адлюструе нашчадкам вось такой цьмянай мрояй?

Туман развейваўся, прыпадаў шматкамі да травы. Пажаўцела мяжа небасхіла. Я прапанаваў сябрам:

— Мо, шаноўнае спадарства, пачакаем узыходу сонца?

Аднак стомленае спадарства падалося спаць. Толькі Алесь пажартаваў, шырока зяхаючы:

— Ведаем, усё роўна загляне сонца ў наша аконца...

---

*Ні кастрычніцкай шэрай тугой,*
*Ні маім выпадковым натхненнем.*

*І пляваць яму, што назаўжды*
*Адляцела яно з гэтых дрэваў,*
*Што ідуць цэлы тыдзень дажджы*
*Сумнай музыкай восеньскіх спеваў.*

•

*Трэ'было гэтых розных падзей*
*І сюжэтаў майго існавання,*
*Каб пазбавіцца дробных надзей*
*Наконт лёсу і наканавання.*

*Бо ў чарзе тых бясконцых начэй,*
*Якіх зведаў я, можа, замнога,*
*Я прыходзіў за іншых хутчэй*
*К адкрыццю таямнічасці Бога.*

**Алег АЛЕКСА**

## ТРЫЛОГІЯ

I

*Ён чуў святло.*
*Ніхто не мог зразумець як,*
*І таму яго баяліся,*
*Як баяцца ўсяго незразумелага,*
*дзіўнага,*
*А боязь нараджае нянавісць.*
*Яго ненавідзелі ўсе:*
*сябры, суседзі,*
*паштальён, дворнік*
*і зусім незнаёмыя людзі.*
*Аднойчы ён знік.*
*Ніхто не ведаў, куды і навошта,*
*нікога гэта і не цікавіла.*
*А ён проста сустрэў яе.*
*Яна бачыла гукі.*

II

*Мы будзем камечыць рэчаіснасць,*
*Біць шкло і глытаць аскепкі*
*Штучных сусветаў.*
*Ты і я.*
*Мы разам.*
*Мы пагасім сонца.*
*І запалім зоркі і месяц,*
*Каб стварыць атмасферу,*
*Што спрыяла б нашаму*
*Інтымнаму пачуццю,*
*Якое нехта кліча каханнем.*
*Смешныя людзі...*

III

*Пахмуры вясновы ранак.*
*Святло змоўкла..*
*Гукі згаслі...*
*Толькі сэрца баліць.*
*Ды жывот рэжуць*
*Аскепкі сусветаў,*
*Што глыталі вечарам.*
*Пад крэслам пакінута брудная,*
*Пакамечаная рэчаіснасць.*
*Самота і цыгарэты...*

**Вікторыя БАРТКЕВІЧ**

•

*Халодны вецер лісце рве...*
*Як слёзы, дождж ілье, ілье...*
*Чаму так цяжка дыхаць мне?..*
*Адказу восень не дае...*

*Журботнасць... Смутак... Шмат нуды...*
*Мне трэба збегчы... А куды?!*
*Кастрычнік зараз гаспадар,*
*І сум яго прымай як дар!*

# НІЧЫПАР ПАШКЕВІЧ

5 лютага адышоў у іншы свет беларускі крытык, літаратуразнавец, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я. Коласа, кандыдат філалагічных навук, заслужаны работнік культуры Беларусі Нічыпар Еўдакімавіч Пашкевіч.

Ён нарадзіўся 12 снежня 1924 года ў вёсцы Філістава Талачынскага раёна. Пасля мясцовай сямігодкі скончыў Мінскае педвучылішча (1939). Падчас Вялікай Айчыннай вайны быў байцом партызанскага атрада брыгады "Граза", якая дзейнічала на Віцебшчыне. Узнагароджаны ордэнамі Айчыннай вайны ІІ-й ступені, Чырвонай Зоркі, медалямі.

Пасля вайны працаваў рэдактарам талачынскай раённай газеты, загадчыкам аддзела газеты "Віцебскі рабочы". Завочна скончыў гістарычны факультэт Віцебскага педінстытута. З 1951 года – зноў на журналісцкай працы. З 1961 па 1969 гг. Н. Пашкевіч быў галоўным рэдактарам газеты "Літаратура і мастацтва". З 1969 года – рэдактар аддзела газеты "Правда", з 1972 – намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Литературное обозрение". З 1974 па 1976 гады працаваў намеснікам дырэктара Інстытута літаратуры імя Я. Купалы, быў рэктарам Мінскага інстытута культуры, галоўным рэдактарам сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі кінастудыі "Беларусьфільм" (1979–1987), старшынёй праўлення Беллітфонду.



Публікавацца Н. Пашкевіч пачаў з 1943 года. Ён – аўтар вершаў, апавяданняў і гумарэсак, шэрагу артыкулаў пра творчасць беларускіх пісьменнікаў, рэцэнзій. Найбольшую вядомасць Н. Пашкевічу прынесла кніга літаратурна-крытычных артыкулаў "На шырокіх шляхах жыцця" (1965), у якой даваўся аналіз развіцця беларускага рамана.

Памяць пра Нічыпара Еўдакімавіча назаўсёды застанецца ў сэрцах яго сяброў і калег.

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

# РАЗВІТВАЮЧЫСЯ

Васемнаццаць гадоў таму ў сувязі з шасцідзесяцігоддзем Нічыпара Пашкевіча я выступіў з артыкулам "Урокі галоўнага".

Два сэнсы ўкладзены былі мною ў загаловак. Першы — удзячнасць Нічыпару Еўдакімавічу як колішняму галоўнаму рэдактару "ЛіМа". Удзячнасць за ўрокі прафесійнасці высокага класа, якія я (і ці ж адзін я!) ад яго засвоіў. Усё-такі адпрацаваў поруч з ім, пад яго кіраўніцтвам амаль увесь час, што ён ачольваў лімаўскую каманду, а прафесіяналам у журналістыцы, у рэдактарскім умельстве ён быў адменным. Другі сэнс — удзячнасць яму як асобе. За дадзеныя ўрокі галоўнага, самаважнага, чаго чалавек павінен трымацца, калі хоча быць вартым павагі. Урокі прыкладам уласцівага самому — працавітасцю, прынцыповасцю, цвёрдасцю слова, патрабавальнасцю (да сябе не менш, чым да іншых), аб'ектыўнасцю, чуласцю.

Цяжкае хвароба ў апошнія аж сем гадоў адарвала ад актыўнай дзейнасці гэтую на працягу дзесяцігоддзяў як жа прыкметную на ніве беларускай культуры персону.Для маладзейшай генерацыі нашых літаратараў, артыстаў, мастакоў, журналістаў Пашкевіч — дзейная фігура дзён не так і блізкага ўжо мінулага. І даводзілася чуць адносна яго зняважлівае: "Камуняка!" Цяпер у антаганісты эсэсэраўскай сістэмы шчэміцца і шмат хто з ранейшых найпалкіх яе апалагетаў.

Што можна сказаць у адказ? Так, паводле паслужнога спіса Пашкевіч — самаправаверны камуніст. Камісар партызанскага атрада ў вайну. Рэдактар раённай газеты ў першую паваенную пару. Відная постаць у абласной газеце, потым у "Звяздзе". Слухач акадэміі грамадскіх навук пры ЦК КПСС. Загадчык аддзела ў рэдакцыі "Правды". Рэктар мінскага інстытута культуры. Галоўны рэдактар студыі "Беларусьфільм".

Аднак у мяне на памяці момант, калі сяджу перад двума высокімі функцыянерамі ЦК КПБ. Як тадышні адказны сакратар рэдакцыі "ЛіМа" адказваю на малапрыемныя пытанні з прычыны вельмі сур'ёзнай, як лічылася, палітычнай памылкі, што прасачылася на старонкі газеты. Па ходзе размовы ўспамінаецца Пашкевіч, на той час ужо не галоўны ў "ЛіМе", а супрацоўнік "Правды". І адзін з распытвальнікаў, загадчык цэкоўскага аддзела культуры моршчыцца: "Божачкі, наколькі ж цяжкі ён быў рэдактар!"

Гэта праўда — надзвычай нялёгкім, "некіруемым", як там фармулявалася, для ўладных ідэалагічных структур быў Пашкевіч рэдактарам. Бо ў ацэнцы мастацкіх з'яў найперш кіраваўся ісцінай, а не імкненнем дагадзіць меркаванню, як гаварылася, "інстанцый". Добра памятаю, напрыклад, цёмную хмару над рэдакцыяй, выкліканую тым, што, рэцэнзуючы адзін з "дацкіх" (у сэнсе пастаўленых да важнай каляндарнай даты) спектакляў купалаўцаў, "ЛіМ" выказаўся аб ім як аб няўдачы тэатра. Насуперак віншаванню з вялікай творчай перамогай (а Пашкевіч ведаў пра гэтае віншаванне), моўленаму кіраўніцтву тэатра прысутнай на прэм'еры Першай Асобай рэспублікі.

Ён быў адметным і рупным працаўніком у культуры, Нічыпар Пашкевіч. А для мяне асабіста яшчэ і чалавекам, якому я нямала чым абавязаны ў сваім лёсе.

**Уладзімір МЕХАЎ**

**Калектыў рэдакцыі штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" глыбока смуткуе ў сувязі са смерцю былога галоўнага рэдактара "ЛіМа" Нічыпара Еўдакімавіча ПАШКЕВІЧА і выказвае сардэчныя спачуванні яго родным і блізкім.**

# Андрэй АНДРОСІК

Беларускае тэатральнае мастацтва панесла цяжкую страту. 3 лютага 2003 г. на 62-м годзе заўчасна пайшоў з жыцця галоўны рэжысёр Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача Андрэй Фёдаравіч Андросік.

А. Андросік нарадзіўся 13 ліпеня 1941 года ў Расіі ў г. Самара. У 1965 годзе скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут, у 1972 годзе — Дзяржаўны інстытут тэатра, музыкі і кінематаграфіі ў Ленінградзе. У 1971—1995 гадах працаваў рэжысёрам Беларускага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. У кастрычніку 1995 года ўзначаліў Беларускі рэспубліканскі тэатра юнага гледача.

Рэжысура А. Андросіка вызначалася яркай тэатральнай відовішчнасцю, тонкім раскрыццём сцэнічных характараў, здольнасцю ствараць адметную атмасферу дзеяння. Лепшыя пастаноўкі А. Андросіка, ажыццёўленыя разам з В. Раеўскім, займалі трывалае месца ў рэпертуары тэатра імя Я. Купалы: "Характары" паводле В. Шукшына, "Эшалон" М. Рошчына, "Апошні журавель" А. Дударава і А. Жука, за апошнюю А. Андросік быў адзначаны І-й прэміяй на першым Беларускім тэатральным фестывалі ў Віцебску ў 1986 годзе. З 1972 года А. Андросік выкладаў у Беларускай акадэміі мастацтваў, а ў 1987—1999 гадах быў мастацкім кіраўніком курса. Пастаўленая ім са студэнтамі "Камедыя" У. Рудава і Ф. Аляхновіча зрабіла вядомым Альтэрнатыўны тэатр, а пасля набыла прызнанне і ў Малым тэатры.

Нязменным поспехам у Тэатры юнага гледача карыстаюцца пастаноўкі А. Андросіка. Яго глыбокі і кранальны "Маленькі лорд Фаўнтлярой" паводле Ф. Бернет адзначаны 3-й прэміяй конкурсу на лепшы спектакль для дзяцей у драматычных тэатрах Беларусі (1998), а А. Андросік стаў лаўрэатам прэміі імя Л. Мазалеўскай. За пастаноўку трагічнай легенды "Палачанка" А. Дударава ў 2001 годзе А. Андросік быў ганараваны прэміяй імя Е. Міровіча.

А. Андросік марыў стварыць Нацыянальны дзіцячы тэатр. Будзем спадзявацца, што яго мара здзейсніцца.

Светлая памяць аб Андрэю Фёдаравічу Андросіку назаўсёды застанецца ў сэрцах калег і сяброў, усіх, хто ведаў і працаваў з гэтым таленавітым чалавекам і рэжысёрам.

**Калектыў ТЮГа**

## АФІША ЛЮТАГА

**Нацыянальны акадэмічны тэатр балета**
**вул. Парыжскай Камуны, 1, тэл. 234-06-66**

**16** — С. Пракоф'еў "Рамэа і Джульета"
**19** — А. Пятроў "Стварэнне свету"
**23 (раніца)** — К. Хачатуран "Чыпаліна"

**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне**

**Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы**
**вул. Парыжскай Камуны, 1, тэл. 234-10-41**

**15** — Вечар памяці Л.П. Александроўскай
**16 (раніца)** — Ц. Кюі "Кот у ботах"
**22** — В. А. Моцарт "Вяселле Фігара"
**23** — Ж. Бізэ "Кармэн"

**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне**

**Беларускі дзяржаўны музычны тэатр**
**вул. Мяснікова, 44, тэл.220-81-26, 220-92-54**

**14** — А. Рыбнікаў "Юнона і Авось", рок-опера (прэм'ера)
**15** — А. Адан "Жызель", балет
16 (раніца) — І. Левін "Айбаліт-2002"
**16 (вечар)** — І. Кальман "Марыца", аперэта
**18** — І. Кальман "Прынцэса цырка", аперэта
**19** — К. Лістоў "Севастопальскі вальс", рамантычная музычная камедыя
**20** — У. Кандрусевіч "Стакан вады", мюзікл
**21** — Ц. Хрэннікаў "Даратэя", камічная опера

**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне**

**Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы**
**вул. Энгельса, 7, тэл. 227-17-17**

**14** — А. Астроўскі "Лес"
**15** — А. Курэйчык "Згублены рай"(прэм'ера)
**16** — М. Манохін "Парфён і Аляксандра", пастараль
**17** — М. Задорнаў "Таполевая завея"
**21, 22** — А. Дудараў "Князь Вітаўт", легенды сівой даўніны

**Малая сцэна**
**вул. Энгельса,12**

**14** — В. Шчукіна "Ваш ход, калега!", фаталістычная трагікамедыя (Тэатр п'есы)
**15** — А. Аверчанка "Мы і яно", "машынальная" камедыя
**16** — Ф. Шылер "Каварства і любоў", мяшчанская драма
**17** — А, Казанцаў "Брат мой, Сіман..."
**19** — С. Кавалёў "Саламея", летапіс кахання

**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне**

**Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага**
**Вул. Валадарскага,5, тэл. 220-15-41, 220-39-66**

**Вялікая сцэна**

**14** — У. Шэкспір "Трагічная аповесць пра Гамлета, прынца дацкага"
**15** — "Амфітрыён", інтымныя сцэны жыцця людзей і багоў
**16** — С. Віткевіч "Вар'ят і манахіня", кароткая п'еса
**18** — А. Папова "Пестуны лёсу"
**19** — Ф. Рэньяр "Адзіны спадкаемца", камедыя
**20** — Д. Фо, Ф. Рамэ "Свабодны шлюб", камедыя
**21** — А. Дудараў "Люці", меладраматычны дэтэктыў

**Малая сцэна**

**18, 21** — "Перпетум мобіле, альбо Вечар яўрэйскага анекдота"
**20** — Э. Радзінскі, Ф. Дастаеўскі "Рулетка"

**Пачатак ранішніх спектакляў а 11-й, вячэрніх а 19-й гадзіне**

**Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі**
**вул. Крапоткіна, 44, тэл. 234-60-08**

**14, 20** — У. Панін "Песні ваўка"
**15** — А. Курэйчык "Понцій Пілат"(прэм'ера)
**16** — С. Кавалёў "Балада пра Бландою"
**19** — М. Адамчык, М. Клімковіч "Чорны квадрат"
**21** — З. Сагалаў "Палёты з анёлам", спектакль пра М. Шагала
**22** — С. Алексіевіч "Чарнобыльская малітва"

**Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне**

**Беларускі дзяржаўны маладзёжны тэатр**
**вул. Даумана,1, тэл.289-32-62**

**14** — Э. Іянэска "Трызненне ўдваіх"
**15 (а 11-й гадзіне)** — С. Казлоў "Па зялёным узгоркам акіяна"
**16, 21** — Б. Шоу "Пігмаліён"
**19** — У. Шэкспір "Страсці ў Віндзоры", камедыя
**20** — Ж.Б. Мальер "Хітрыкі Скапэна", камедыя
**22** — А. Пагрэбінская "Дзесьці далёка"

**Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне**

**Беларускі дзяржаўны тэатр лялек**
**Вул. Энгельса,20, тэл. 227-05-32**

**15, 16 (10.30, 13.00)** — "Гісторыя Снежнай каралевы", якую расказвае яна сама"

**Тэатр-студыя кінаакцёра**
**пр. Машэрава,13, тэл. 223-08-11**

**14** — Г. Салоўскі "Астраў нашай любові і надзеі", праўдзівая казка для дарослых
**15, 16** — А. Астроўскі "Таленты і прыхільнікі", драматычная камедыя
**18, 19** — Д. Кілці "Мілы хлус"
**20, 21** — Э. дэ Філіпа "Філумэна Мартурана"

**Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне**

**Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра "Зьніч"**
**У касцёле св. Сымона і св. Алены**
**(пл. Незалежнасці, 15)**

**17** — Н. Гілевіч "Не праклінай, што я люблю...", монаспектакль паводле рамана "Родныя дзеці"
**24** — Я. Янішчыц "Прыпадаю да нябёс...", монаспектакль паводле вершаў

**Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне.**

**Тэатр юнага гледача**
**вул. Энгельса, 26, тэл. 226-01-67, 227-39-43**

**16 (а 14-й гадзіне)** — С. Навуменка "Залатое сэрцайка", спектакль-гульня

**Тэатр "Вольная сцэна"**
**Дом ветэранаў**
**(вул. Я. Купалы, 21)**

**21, 22** — Д. Каль "Водбліскі далёкіх маланак" (прэм'ера)

## РАКУРС АФІШЫ

**"У Беларусі, здаецца, я дасягнула ўсяго, на што толькі была здольная. Менавіта таму я працую зараз у Маскве, бо там вельмі вялікі патэнцыял лепшых творчых сіл — гэта нібыта маленькі Галівуд. Аднак я не з'ехала назусім, не развітаўшыся. Я беларуска. Я нарадзілася на гэтай зямлі, Беларусь — гэта мая любоў, радзіма і гонар". Так сцвярджае Ліка ЯЛІНСКАЯ, якая, нягледзячы на шматлікія прапановы рэалізавацца ў якасці мадэлі або актрысы, плануе прадоўжыць кар'еру эстраднай спявачкі (гл. "Звязду" за 6 лютага).**

**Прапаноў ад расійскага шоу-бізнесу, відавочна, паболела. Бо колішняя "першая прыгажуня" Беларусі, а з часам — і "Міс фота СССР" пры канцы мінулага года заваявала прэстыжны тытул "Місіс Расія-2002". Сярод належных узнагарод пераможца турніру замежных прыгажунь атрымала і пуцёўку на конурс "Місіс Сусвет". Наша зямлячка будзе прадстаўляць там Расійскую Федэрацыю. Яно і зразумела: Ліка выйшла замуж за вядомага расійскага бізнесмена Мікалая Агурбаша, у гэтым новым статусе выступала і на конкурсе "Місіс Расія".**

**Значыць, бывай, Ліка Ялінская, — апладысменты прымае Анжаліка Агурбаш?..**

**Я. КАРЛІМА**

## АКЦЭНТ

**Не забыліся, які сёння дзень? Свята для ўсіх закаханых, што, паводле падання, апякае святы Валянцін. Адзначаць гэты дзень у нас да нядаўняга часу не было прынята, і ўсё ж... Для кагосьці абмяняцца "валянцінкамі" ці проста паслаць прывітанне ад сэрца да сэрца, не спадзеючыся нават на добрае слова ў адказ, — важны рытуал. І калі расійская поп-зорка Леанід АГУЦІН (на здымку), некалькі гадоў таму выступаючы ў Мінску ў гордай адзіноце пад прыцэлам тутэйшых фотарэпарцёраў, можа, і не зважаў на прысутнасць у кругабегу будняў Валянцінава дня, дык цяпер... Што й казаць! Папулярны і, трэба думаць, шчаслівы сямейны дуэт з Расіі, Анжаліка Варум ды Леанід Агуцін прысвячаюць свае гастрольныя выступленні святу ўсіх закаханых. Заўтра, 15 лютага, яны спяваюць у Палацы Рэспублікі. Праз дзень канцэрт адбудзецца ў Брэсце.**

**С. Б.**

## У СТАЛІЦЫ

**ЗАЛА КАМЕРНАЙ МУЗЫКІ**
**(пр. Ф. Скарыны, 44а)**

**15 (а 16-й гадзіне) — Гучыць арган.** Харал у творчасці кампазітараў Германії 17—20 стст. Грае К. Шараў. Музыказнаўца В. Савіцкая.

**18 — Канцэрт студэнтаў Мінскага дзяржаўнага** музычнага вучылішча імя М. Глінкі (аддзяленні народных і духавых інструментаў).

*20* — **Выступаюць навучэнцы** мінскай ДМШ № 1 імя Л. Александроўскай (аддзяленні фартэпіяна і струнных смыковых інструментаў).

21 — **Лаўрэаты Спецыяльнага фонду Прэзідэнта РБ па падтрымцы таленавітай моладзі** кларнетыст М. Штрыкаў (клас І. Брычыкава) ды піяністка Д. Мароз (клас У. Кузьменкі). У праграме Фінцы, Шуман, Сен-Санс, Горавіц. Музыказнаўца А. Ключнікава.

22 — **Праграма VII Мінскага міжнароднага фестывалю праваслаўных песняспеваў.**

•

**З 16 па 23** у самых розных аўдыторыях і на канцэртных пляцоўках пройдуць імпрэзы VII Мінскага міжнароднага фестывалю праваслаўных песняспеваў. Заключны канцэрт з удзелам пераможцаў конкурсу (журы ўзначальвае вядомы кампазітар і святар А. Бандарэнка) мае адбыцца ў Цэнтральным доме афіцэраў.

## КІНО WEEKEND

***З 10 лютага ў кінатэатры "Мір" (вул. Казлова, 4а) праходзіць эксклюзіўны кінапаказ "Вялікія італьянцы". Мінчукі ўжо змаглі паглядзець вялікія кінастужкі Федэрыка Феліні "8$^1/_2$", "І карабель плыве", "Джынджэр і Фрэд", "Інтэрв'ю". У дзень Святога Валянціна — 14 лютага, а таксама ў святочныя суботу і нядзелю можна будзе прызнацца ў любові яшчэ двум славутым італьянскім кінарэжысёрам і Мікеланджэла Антаніёні і Бернарда Берталучы.***

Фільм М. Антаніёні "Чырвоная пустыня" (1964 г.) — гэта першы каляровы фільм гэтага рэжысёра. Насычаны чырвоны колер у стужцы казычыць душу, бо ў сваёй карціне, дзе сыграла цудоўная актрыса (і жонка М. Антаніёні) Моніка Віці рэжысёр разважае аб адзіноце, непаразуменні, эгаізме людзей. (Стужка была адзначана "Залатым львом" на МКФ у Венецыі.) А вось зробленая праз трыццаць адзін год карціна "За аблокамі" (1995 г.) — гэта фільм філасофскіх дыялогаў (разам з М. Антаніёні сцэнарый пісалі Таніна Гуэра і Вім Вэндэрс), якія вядуць Мужчына і Жанчына (у карціне зняліся такія зоркі, як Д. Малкавіч, С. Марсо, І. Жакоб, Ф. Ардан, М. Мастраяні, Ж. Маро). Фільм пра каханне, але ўпершыню замест псіхалагічнай духаты рэжысёр прапаноўвае гледачу свабоднае, лёгкае дыханне, якое можа быць толькі... за аблокамі.

Падсумуе жа кінарэтраспектыву шчыры, жорсткі фільм пра ўсіх нас, пра чалавецтва увогуле "Дваццатае стагоддзе" Б. Берталучы.

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**

*НА ЗДЫМКУ: "Вялікія італьянцы" — рэжысёр М. Антаніёні і сцэнарыст Т. Гуэра.*

**Кінатэатр "Мір": сеансы: 14, 15, 16 лютага (18.30).**


Выходзіць З 1932 ГОДА
**У 1982 годзе ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў**

**ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР**

**Віктар ШНІП**

**Рэдакцыйная рада:**

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА,**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**

**Леанід ГАЛУБОВІЧ,**

**Алесь ГАЎРОН — адказны сакратар,**

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**

**Уладзімір САЛАМАХА — намеснік галоўнага рэдактара**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**
**ТЭЛЕФОНЫ:**
**намеснік галоўнага рэдактара — 284-44-04**

**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-7965**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7965**
**літаратурнага жыцця — 284-7965**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7965**
**паэзіі і прозы — 284-7965**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва — 284-7965**
**карэктарская — 284-8091**
**бухгалтэрыя — 284-4991**
**Тэл./факс — 2848525**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79

Індэкс 63856 Наклад 1637
Нумар падпісаны ў друк 12.02.2003 у 15.00

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 383

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12